На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
Якуб КОЛАС

№ 153 (1966)

Чацвер, 19 жніўня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП "Народная воля"
Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

*Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +27...+29, сонечна, уначы — +18...+20, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +29...+31, сонечна, уначы — +20...+22, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +28...+30, сонечна, уначы — +19...+21, навальніцы; у Віцебску ўдзень — +25...+27, сонечна, уначы — +17...+19, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +27...+29, сонечна, уначы — +17...+19, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +27...+29, сонечна, уначы — +17...+19, без ападкаў.

*www.meteo.by*



## Назіраць будуць толькі «чэсныя» журналісты

Пры Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў створаны Назіральны савет па інфармацыйных спрэчках.

Як было зазначана на пасяджэнні Цэнтрвыбаркама, асноўная функцыя Назіральнага савета — кантраляваць асвятленне агітацыйнай кампаніі па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў у СМІ (як дзяржаўных, так і недзяржаўных) наконт яе адпаведнасці закону "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", Выбарчаму кодэксу і іншым актам заканадаўства.

У Назіральны савет, як зазначалася на пасяджэнні, увайшлі "высокакваліфікаваныя" журналісты, якія прадстаўляюць "найбольш аўтарытэтныя" СМІ. Гэта, у прыватнасці, першы намеснік міністра інфармацыі Лілія Ананіч, кіраўнік Грамадскага прэс-цэнтра Дома прэсы Таццяна Бялова, першы намеснік старшыні Белтэлерадыёкампаніі Беларусі Аляксандр Мартыненка, першы намеснік галоўнага рэдактара газеты "Советская Белоруссия" Міхаіл Лябедзік, генеральны дырэктар 1-га Нацыянальнага канала Беларускага радыё Пётр Раманчук, першы намеснік Беларускага саюза журналістаў Рыгор Сакалоўскі і галоўны рэдактар газеты "Минская правда" Мікалай Шлома.

Ніводны прадстаўнік недзяржаўных СМІ ў склад Назіральнага савета не ўвайшоў.

**БелаПАН.**

## Зарэгістравалі ініцыятыўную групу Вінцука Вячоркі

Ініцыятыўная група па вылучэнні лідэра Партыі БНФ Вінцука Вячоркі зарэгістравана ва Усходняй выбарчай акрузе № 107 Мінска. Аб гэтым БелаПАН паведаміў сам палітык. Паводле яго слоў, у склад ініцыятыўнай групы ўвайшлі 69 чалавек.

Паводле інфармацыі В.Вячоркі, усяго актывістамі Партыі БНФ было пададзена 46 заяў на рэгістрацыю ініцыятыўных груп. Не зарэгістраваны з іх былі тры — дзве ў Магілёве і адна ў Жодзіне (Мінская вобласць).

Як паведаміў БелаПАН старшыня партыі Віктар Івашкевіч, большасць прадстаўнікоў Партыі БНФ, чые ініцыятыўныя групы ўжо зарэгістраваны акруговымі камісіямі і прыступілі да збору подпісаў, будуць таксама паралельна вылучаны на з'ездзе партыі, які пройдзе 29 жніўня. Акрамя таго, на з'ездзе будуць вылучаны 7 кандыдатаў у дэпутаты, якіх не зарэгістравалі ініцыятыўныя групы. Такім чынам, паводле разлікаў кіраўніцтва партыі, агульная колькасць патэнцыяльных кандыдатаў ад БНФ складзе каля 50 чалавек.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## В.Лявонаў: Рэферэндум па пытанні аб трэцім тэрміне рэальна можа скараціць перыяд праўлення А.Лукашэнкі

Такую думку ў інтэрв'ю БелаПАН у Маскве выказаў старшыня апякунскага савета беларуска-расійскага фонду "За новую Беларусь" Васіль Лявонаў.

У прыватнасці, ён спаслаўся на звесткі сацыялагічных апытанняў, паводле якіх толькі каля трацiны беларусаў станоўча ставяцца да перспектывы трэцяга тэрміну для цяперашняга беларускага афіцыйнага лідэра.

На думку В.Лявонава, каб дамагчыся на рэферэндуме патрэбнага для сябе выніку, уладам непазбежна давядзецца "на ўсю моц уключыць адміністрацыйны рэсурс, звярнуцца да каласальнай маніпуляцыі масавай свядомасцю". Такі "гвалт над грамадствам", мяркуе В.Лявонаў, можа ў выніку ўдарыць бумерангам па самой уладзе.

Як лічыць старшыня фонду, цяперашні беларускі лідэр "майстарскі выйграе імгненную палітычную барацьбу, але ў стратэгіі ён не моцны".

**Аляксандр КЛАСКОЎСКІ.**

ВЫБАРЫ

# Віцебскія кандыдаты закідваюць Цэнтрвыбаркам скаргамі

*Цяжкі і цярністы шлях да парламенцкага крэсла! Для многіх кандыдатаў у дэпутаты, як аказалася, галоўная праблема не ў тым, каб заваяваць "аўдыторыю", а менавіта ў бюракратычных механізмах. Так, некалькі дзён таму акруговыя выбарчыя камісіі Віцебска адмовілі ў рэгістрацыі ініцыятыўных груп тром кандыдатам у дэпутаты — старшыні абласной арганізацыі БСДП (Народная Грамада) Аляксею Гаўруцікаву, дэпутату Гарадскога савета Вользе Карач і вядомаму праваабаронцу Валерыю Шчукіну.*

*"У акруговай выбарчай камісіі мне паведамілі: рашэнне пра адмову ў рэгістрацыі выклікана тым, што ў складзе маёй групы грамадзянін Расіі,* — кажа Шчукін. — *Але гэты чалавек пастаянна пражывае на тэрыторыі Беларусі, мае тут прапіску, кватэру, сям'ю. Таму, згодна з Выбарчым кодэксам, можа ўдзельнічаць у мясцовых выбарах — і галасаваць, і вылучацца ў якасці кандыдата",* — паведамляе праваабаронца. Дарэчы, скаргу, якую Шчукін накіраваў у Цэнтрвыбаркам, не задаволілі. Але паабяцалі вярнуцца да гэтага пытання 20 жніўня, паколькі Шчукін даказаў, што скарга ініцыятыўнай групы была адпраўлена на працягу трох сутак, а не пазней, як гэта сцвярджалі ў Цэнтрвыбаркаме.

Вользе Карач у акруговай камісіі сказалі: ініцыятыўную групу не маем магчымасці зарэгістраваць, паколькі ў спісе фігуруе неўпаналетняя дзяўчына. *"Але тут таксама вельмі далікатны момант,* — распавядае "Народнай волі" Вольга Карач. — *Справа ў тым, што гэтай дзяўчыне праз тыдзень ужо споўніцца васемнаццаць гадоў".* Дэпутат Гарсавета прапанавала акруговай выбарчай камісіі выключыць непаўналетнюю са спісу, паколькі ініцыятыўная група фарміравалася з адпаведным "рэзервам". *"Але ў акруговай выбарчай камісіі сказалі, што яны галасуюць за спіс, а не за асобы. Хаця такога ў Выбарчым кодэксе няма. Я думаю, што мы сутыкнуліся з добра сппанаванай правакацыяй",* — гаворыць кандыдат у дэпутаты. Цэнтрвыбаркам пакінуў у сіле рашэнне акруговай выбарчай камісіі. *"Больш за тое, падчас разгляду скаргі мяне абазвалі амаральным чалавекам",* — усміхаецца Вольга.



*Збор подпісаў пачаўся.*

**Фота photo.bymedia.net**

У штабах Народнай Грамады, якія адсочваюць выбары, адбываюцца наогул дзіўныя рэчы — падножкі ставяць тыя, ад каго менш за ўсё гэтага чакалі. Так, старшыні абласной арганізацыі БСДП (НГ) адмовілі ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы таму, што два члены штаба (адзін — вусна, другі — пісьмова) паведамілі, што былі залічаны ў ініцыятыўную групу без іх згоды. Прыкладна такая ж сітуацыя паўтарылася і ў 27 выбарчай акрузе па Оршы і Аршанскім раёне, ад якой вылучаецца сацыял-дэмакрат Фёдар Муханаў. Член ініцыятыўнай групы, сталая жанчына, засведчыла, што не давала згоды на ўдзел у перадвыбарнай кампаніі, хаця, як сцвярджаюць сябры БСДП (НГ), пенсіянерка цалкам добраахвотна ўвайшла ў склад групы.

На такой жа падставе не зарэгістравалі ініцыятыўную групу сацыял-дэмакратаў па Глыбоцкай выбарчай акрузе № 22. Адмову атрымаў і прадстаўнік БСДП (НГ) Ігар Аўсяннікаў, які вылучаецца ад Пастаўскай выбарчай акругі — узніклі прэтэнзіі да спісу членаў групы. Пастаўскія актывісты Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) падалі адпаведную скаргу ў Цэнтрвыбаркам. *"Я перакананы, што ўсё гэта — генеральная рэпетыцыя 2006 года,* — даволі катэгарычна выказваецца Аляксей Гаўруцікаў. — *Стратэгія прадумана вельмі добра, ніякіх выпадковасцяў няма".*

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

ТАК ДУМАЮ

# Расписываться в своем бессилии и безволии не очень-то почетно

Выступая в "Народной воле", "палатница" Ольга Абрамова утверждает: в нынешнем Национальном собрании *"мало депутатов-политиков, чтобы создать критическую массу давления для принятия соответствующего политического решения".* Это, безусловно, верно. Но совершенно неверно, по-моему, что причину отсутствия депутатов демократического толка О.Абрамова видит в бойкоте выборов 2000 года.

Причина, считаю, совершенно в ином — в полном бесправии белорусского избирателя. В государстве, где правит один человек, а не Закон, можно сколько угодно предлагать себя или иного в качестве кандидата хоть в какие-нибудь депутаты, результат будет один: "элегантная" победа тех, кто угоден власти. Мы, избиратели, вновь останемся наедине со своими бедами, с чувством униженного человеческого достоинства.

Так было в 2000 году, так было в 2001-м. Не изменилась ситуация и сегодня. Вернее, она стала еще жестче. А депутаты-назначенцы (коих абсолютное большинство) не только не "всемогущие", они просто — никакие. Воля их парализована, полное "смирение". За 4 года сидения на нынешней законодательной ветке власти подавляющее большинство из них ни словом, ни делом не выступили в защиту интересов своих избирателей, лишь штампуя волю свыше. Исполнительная власть оказалась вне всякого контроля и совершенно не зависит от мнения граждан.

Репрессии против думающих иначе, избиение молодых и старых рядовых граждан и "нетаких" депутатов на улицах и в подворотнях ОМОНами, СОБРами и людьми в штатском. Отсутствие правдивой информации, а то и откровенная ложь, хамство, унижение всех и каждого... Одни — весьма известные и достойные люди — оказывается, "хрюкали у кормушки" и "валяются на помойке". Зато власть выпускает из СИЗО небезызвестную Журавкову, взимает в пользу Рыбакова, который обвиняется в крупных взятках, астрономический штраф с "Народной воли". Видите ли, газета посягнула на его "честь" и "достоинство"!

*"В принципе плохо, когда жизненные интересы людей и их удовлетворение зависят от доброй воли чиновника, а не от реально отстроенной системы защиты прав личности в общегосударственном масштабе",* — утверждает О.Абрамова. Да, уважаемый законодатель, это *"в принципе плохо".* Но кому же отстраивать эту *"систему защиты",* как не полномочным представителям народа в Национальном собрании?

В словах многих депутатов звучат безысходность, беспомощность. Еще бы: после стольких обещаний избирателям во время выборной кампании-2000 расписываться в своем бессилии и безволии не очень-то почетно. Но на что вы надеялись, идя тогда на выборы и потом, ничего не стремясь изменить в системе отсутствия народовластия?

**Тамара БЕЛАЯ.**

*Минск.*

ДОСЛОВНО

*Александр ЛУКАШЕНКО:*

## «Кравченко все посольство заставил для себя стирать белье...»

*"Понимаете, многие говорят: "А какая проблема нашей оппозиции?" Передайте всем на Западе, который занят этим вопросом: что в Беларуси за оппозиция, какая у нее проблема. Она состоит в том, что это все "бывшие" плюс пенсионеры, которые очень успешно годами сидели у "кормушки" Лукашенко: Войтович, Кравченко, Козулин и прочие. Они же "хрюкали у кормушки" Лукашенко! Окрепли, встали на ноги, проворовались или заняли просто предательскую позицию. Ну вы бы их держали у себя в команде? Нет. И я их отправил. Они сегодня захотели быть президентами.*

*Возьмите Кравченко. Где он был? Он был начальником штаба у моего конкурента на президентских выборах. Пришел Михаил Владимирович Мясникович, говорит: "Нормальный мужик, будет хорошо работать, я вот его воспитал и прочее, ну возьмите, пожалуйста, послом". Я говорю: "Послушай, посол — это лицо Президента". — "Ну возьмите". Я отправил Кравченко послом — в Японию! Он достукался до того, что, когда время пришло, я его отзываю в страну, уверен, нигде в мире такого не было, он отвечает: "Я не поеду, я еще с императором буду встречаться, вот приедет американский президент, я попробую с ним встретиться, я еще здесь задержусь". Слушайте. Президент указ подписывает, а его найти нельзя. Дальше хуже — он все посольство заставил для себя стирать тряпки, белье. Ну разве я мог такого посла терпеть? Если уж так откровенно говорить..."*

**(Цитата с пресс-конференции А.Лукашенко, состоявшейся 20 июля 2004 года)**

*Петр КРАВЧЕНКО:*

## «Мое желание идти в президенты только усилилось...»



— Я не намерен комментировать подобные пассажи, — заявил Петр Кравченко в интервью "Народной воле". — Не вижу в этом никакой необходимости. Это просто грязь... Но Лукашенко не меня испачкал, а себя...

Я опускаться до этого кухонного уровня не буду. А что касается моего назначения послом, то несколько лет назад я подробно обо всем рассказал. И о том, как назначали, и о том, как отзывали... Можете поднять архивы газет...

**— Вернувшись из Японии, Вы заявили, что намерены баллотироваться в президенты Беларуси. Желание не пропало?**

— Только усилилось. Последние высказывания Лукашенко в мой адрес свидетельствуют как раз о том, что он видит во мне потенциального кандидата в президенты и серьезного соперника.

ПРЕСС-ДОСЬЕ

## «Лукашенко не до конца мне доверял и делал все возможное, чтобы держать меня «под колпаком»

"Представьте себе: час ночи, отель в Брюсселе, я только прилетел из Лондона ночным рейсом и еще не успел принять душ, — говорит Кравченко. — Внезапно позвонил **Владимир Архипович Лабунов**, наш посол в Бельгии, и пригласил меня на ужин. Я спрашиваю: какой ужин в час ночи? Но он настаивал, сказав, что они вместе с женой ждут меня и ужин уже готов. Где-то в половине третьего ночи, сославшись на **Александра Лукашенко** и **Михаила Мясниковича,** Лабунов передал мне предложение уехать послом в Японию. Я отказался. Прошло 4 месяца. Когда я находился на лечении в пятой клинике, последовал звонок Мясниковича. Я опять ответил отказом. В конце сентября — начале октября Михаил Владимирович приехал ко мне домой. После этого я повторно уехал в Юрмалу подлечиться и в конце ноября — начале декабря, после очередного напоминания из Минска, по телефону ответил согласием. То есть процесс приглашения меня на работу в Японию занял ровно 10 месяцев, а не в течение одного разговора, как утверждает Лукашенко...

Я понимал, что Лукашенко не до конца мне доверял и делал все возможное, чтобы держать меня "под колпаком"... В сентябре 2002 года была дана команда "фас", которая рьяно выполнялась через отдельных сотрудников дипмиссии. Начались провокации. Развязка наступила 7 октября, когда я принимал большую группу политиков, парламентариев и бизнесменов у себя на квартире в Токио. Во время этого приема раздался телефонный звонок, и мне по телефону предложили убираться из страны. Причем звонил не **Хвостов** *(на то время — министр иностранных дел Беларуси. —* **М.К.)** и даже не заместитель министра. Звонил всего лишь заместитель начальника управления кадров МИДа. Я сказал: *"Что за глупость, как можно уезжать на основании звонка из МИДа?"* Тогда 10 ноября я получил телеграмму, в которой мне было предписано 18 ноября прибыть в Минск. Я позвонил Хвостову и спросил: *"Что, Беларусь объявила Японии войну или наоборот? Почему я должен сдать дела и собраться за неделю?"* Кстати, к чему было ломать дрова и проявлять непонятную поспешность, если до сих пор мой преемник в Японии так и не назначен?

Что касается жалоб на меня со стороны технического персонала дипмиссии, то ни на одном совещании, ни на одной планерке ни один из сотрудников не заявлял, что с чем-то не согласен. На самом деле была одна пьянка, после которой я вынужден был объявить дисциплинарное взыскание советнику посольства. А затем условно аттестовал его. В сентябре 2002 года мной не был аттестован и водитель. Последовала грязная телеграмма водителя сразу в более чем 10 адресов. Это было беспрецедентно. Технический сотрудник дипмиссии по открытым каналам (с помощью обычного факса) послал по существу "телегу" с грязными инсинуациями и домыслами про Чрезвычайного и Полномочного Посла, в которой, естественно, не было ни одного факта. Ее прочли все кому не лень: от спецслужб до сотрудников ряда посольств. Это непозволительно! За такие вещи в любом посольстве уважающего себя государства такого сотрудника в 24 часа отправляют домой".

*(Из интервью Петра Кравченко "Белорусской газете" от 07.04.2003 года)*

**Марина КОКТЫШ.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# Рыбаков предстанет перед судом

### Дело бывшего председателя Национальной государственной телерадиокомпании Егора Рыбакова передано в Верховный суд

Какой судья будет рассматривать дело экс-председателя Белтелерадиокомпании, пока неизвестно. Однако, по словам секретарей Верховного суда, это выяснится буквально на днях.

Жена Рыбакова Оксана, которая работает в отделе писем в газете "Советская Белоруссия", от общения с прессой категорически отказывается.

***"Я не буду отвечать ни на какие вопросы"***, — заявила она по телефону журналисту "Народной воли".

Адвокат Егора Рыбакова **Дмитрий Горячко** никакой информации о своем подзащитном также не сообщает.

Зато не молчит прокуратура Республики Беларусь. По информации данного ведомства, Рыбакову предъявлено официальное обвинение в получении взяток в крупном размере.

Пресс-служба президента со ссылкой на генерального прокурора Беларуси **Виктора Шеймана** сообщила, что ***"прокуратурой по делу изъято денежных средств на сумму свыше 500 тысяч долларов"***.

Если суд подтвердит выводы следствия о взятках, то экс-руководителю Белтелерадиокомпании "светит" от 7 до 15 лет.

Напомним, что в 1994 году Рыбаков засветился в избирательной кампании кандидата в президенты А.Лукашенко. В то время Рыбаков работал корреспондентом газеты "Могилевские ведомости" и выполнял различные поручения доверенных лиц кандидата в президенты. После выборов ему доверили руководить областной телерадиокомпанией. В 2000 году молодой человек занял пост первого заместителя председателя НГТРК, а уже в 2001-м, аккурат к собственному 30-летию, стал председателем.



Рыбаков освобожден от должности председателя НГТРК 13 февраля 2004 года. С этого времени он содержится в следственном изоляторе КГБ.

"Народная воля" поинтересовалась, что думают о деле Рыбакова некоторые политики и журналисты, побывавшие за решеткой.

Экс-министр сельского хозяйства и продовольствия Беларуси **Василий Леонов,** отсидевший три года без одного месяца, считает: если Рыбаков виновен, то он должен сидеть в тюрьме.

***"Думаю, тюрьма должна многому его научить"***, — философски замечает Василий Севостьянович.

Мнение Леонова разделяет и бывший премьер-министр Беларуси **Михаил Чигирь**, который провел восемь месяцев в следственном изоляторе и обвинялся по 13-ти статьям Уголовного кодекса.

***"Если есть доказательства — безусловно, Рыбаков должен сидеть в тюрьме"***, — говорит Михаил Николаевич.

***"При этом совершенно неважно, является экс-руководитель БТ фанатичным поклонником нынешней власти либо ее ярым противником. Преступление есть преступление",*** — добавляет молодой политик **Алексей Шидловский**, который полтора года провел в колонии за "художественную роспись" стен Столбцовского райисполкома.

***"Глеб Жиглов говорил, что вор должен сидеть в тюрьме. Если Рыбаков вор или взяточник, то туда ему и дорога"***, — говорит журналист **Николай Маркевич**, отбывавший наказание по статье, которая в Уголовном кодексе значится как клевета на президента.

"Народная воля" намерена внимательно следить за судебным процессом над Рыбаковым. Надо полагать, что суд будет открытым, а приговор — справедливым.

**Марина КОКТЫШ.**
**Коллаж Александра СИЛИЧА.**

КАДРЫ

# В правительственной больнице новый руководитель

*Временно обязанности главного врача Республиканской больницы Управления делами президента возложены на первого заместителя главврача Александра Максимова*

**Ирина Абельская** (*на фото*), которую два года назад Александр Лукашенко лично направил в лечкомиссию создавать "школу современной медицины" и назначил главврачом больницы, ушла в декретный отпуск.

В сентябре семья Ирины Степановны ожидает пополнения. Рожать Абельская, возможно, будет во 2-м роддоме Минска. Здесь, к слову, в сентябре прошлого года появилась на свет внучка Александра Лукашенко. Невестка главы государства Анна, которая работала в Республиканской больнице и там же стояла на учете по беременности, выбрала именно этот роддом, когда подошел срок рожать.

На прошлой неделе Ирина Абельская посетила 2-й столичный роддом для осмотра. Ультразвуковое исследование показало, что у нее будет мальчик.

Еще не так давно Ирина Абельская была известна как врач президента. В июле 2000 года, после того как Александру Лукашенко была сделана операция на коленном суставе, Ирина Степановна по Белорусскому телевидению дала официальный комментарий о его состоянии. Она сопровождала Лукашенко практически во всех поездках по стране, во время чтения лекций в вузах, на открытии новой станции минского метро...



Поскольку Ирина Степановна временно сложила с себя обязанности главврача правительственной больницы и ответственность за создание "школы современной медицины", возникает закономерный вопрос: не оставит ли она на тот же срок должность личного врача президента? И если да, то кто же теперь будет отвечать за состояние его здоровья?

Правда, пресс-секретарь А.Лукашенко **Наталья Петкевич** утверждает, что такой должности, как личный врач президента, "нет по реестру". Наталья Владимировна посоветовала журналисту "Народной воли" узнать, как правильно называется эта должность. Мы следуем совету пресс-секретаря президента и задаем ей вопрос: "Как называется должность человека, ответственного за состояние здоровья президента, и кто ее занимает?"

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**



*Атрымала пенсію і задумалася... г. Барысаў.*

**Фота photo.bymedia.net**

ПУЛЬС

## Экалагічны лагер адкрыўся пад Наваполацкам

У наваколлях Наваполацка адкрыўся міжнародны экалагічны лагер "Чыстая Дзвіна — Чыстая Балтыка-2004". У ім удзельнічаюць актывісты экалагічных грамадскіх арганізацый з Беларусі, Расіі і Літвы.

Лагер арганізаваны трыма грамадскімі экалагічнымі групамі — "Фонд рэалізацыі ідэй" (Беларусь), "Экаабарона" (Калінінград, Расія) і "Zvejone" (Клайпеда, Літва) — пры падтрымцы кааліцыі "Чыстая Балтыка", куды ўваходзяць грамадскія арганізацыі, якія выступаюць супраць забруджвання Балтыйскага мора. Беларусь у лагеры прадстаўляюць удзельнікі з Мінска, Жодзіна, Баранавіч, Маладзечна, Брэста і Наваполацка.

"Забруджанасць вады ракі Заходняя Дзвіна вышэй за прамысловую частку горада Наваполацка па шэрагу паказчыкаў перавышае нарматывы, устаноўленыя для водных аб'ектаў у Рэспубліцы Беларусь, — гаворыцца ў прэс-рэлізе арганізатараў лагера. — Скідванне сцёкавых вод вытворчых аб'яднанняў "Нафтан" і "Палімір" і іншых прадпрыемстваў у раку Заходняя Дзвіна ў раёне Наваполацка выклікае далейшае павелічэнне канцэнтрацый забруджвальнікаў у вадзе ракі па цячэнні... Больш як удвая павялічваецца забруджванне нафтапрадуктамі, узрастае канцэнтрацыя азоту аманійнага, нітратаў, утрымання ўзважаных рэчываў і агульнай мінералізацыі".

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Скокнем лепей за ўсіх

Паспяхова выступае зборная каманда Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь на 31-м чэмпіянаце свету па парашутным спорце пад эгідай Міжнароднага савета ваеннага спорту. Ён праходзіць з 7 па 22 жніўня ў горадзе Крэмс (Аўстрыя).

Як паведамілі БелаПАН у Спартыўным камітэце Узброеных сіл, перад заключным этапам спаборніцтваў жаночая зборная займае першае месца, а мужчынская — другое.

У складзе беларускай каманды чатырнаццаць чалавек, сярод якіх 1 заслужаны майстар спорту, 7 майстроў спорту, 2 майстры спорту міжнароднага класа.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Навуковы Егіпет стаў бліжэй

У Мінску падпісаны пратакол да пагаднення аб навукова-тэхнічным супрацоўніцтве паміж Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі (НАНБ) і Акадэміяй навуковых даследаванняў і тэхналогій Егіпта (АНІТЕ). Свае подпісы пад дакументам паставілі прэзідэнты НАНБ і АНІТЕ Міхаіл Мясніковіч і Фаузі эль-Рэфаі. Аб гэтым БелаПАН паведамілі ў аддзеле міжнародных сувязяў НАН Беларусі.

Бакі дамовіліся аб правядзенні напрыканцы года ў Егіпце семінара па новых матэрыялах і аднаўляльных крыніцах энергіі. Чакаецца, што тады ж Егіпет наведае з візітам у адказ дэлегацыя НАН Беларусі на чале з М.Мясніковічам.

На думку Ф.эль-Рэфаі, рэалізацыя сумесных навуковых праектаў будзе мець як эканамічны, так і сацыяльны эфект. Ён лічыць, што да працы над гэтымі праектамі неабходна прыцягваць маладых навукоўцаў.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Лагер «Зубраня» адзначае 35-годдзе

Гэтымі днямі Нацыянальны дзіцячы аздараўленчы лагер "Зубраня" адзначае сваё 35-годдзе. Летнік быў створаны ў 1969 годзе ў бары на беразе возера Нарач. Тут адначасова могуць адпачываць амаль 650 дзяцей. Штогод "Зубраня" наведваюць 8 тысяч 400 чалавек ва ўзросце ад 6 да 16 гадоў. Нарачанскі лагер адчынены на працягу года: падчас навучальнага года тут працуе агульнаадукацыйная школа.

Гэтым летам праца была арганізавана ў чатыры змены: з 30 мая, 23 чэрвеня, 17 ліпеня і 8 жніўня.

Святкаванне 35-годдзя выпала на чацвёртую змену. Адпачываючыя сустрэнуцца з цікавымі людзьмі: зоркамі беларускай эстрады, папулярнымі акцёрамі тэатра і кіно, вядомымі спартсменамі. Будуць арганізаваны розныя конкурсы і гульні, сустрэчы ля вогнішча і паходы.

**Вольга АСІПЕНКА.**

СИТУАЦИЯ

# Можно ли здесь строить?

По новому генплану развития Минска до 2030 года в санитарной зоне Новинковского водозабора планируется уплотнение застройки (от ул.Куйбышева до Карастояновой, от ул.Кульман до Щедрина). Частный сектор в районе улицы Богдановича будет сноситься, а вместо этого появятся многоэтажные дома.

Конечно, городу надо строиться, и земля в центре (а это практически центр столицы) очень ценится. Но ...

Застройка, существующая в этом районе много лет, а также многочисленные автосервисы и использование на поле в районе Новинок под пропашные культуры с использованием гербицидов и нитратов уже явились причинами, приведшими к загрязнению питьевой воды водозабора. Причем содержание всех химических компонентов в ней подвержено значительным колебаниям. В последние годы в ряде эксплуатационных скважин фиксируются повышенное содержание хлора (по отдельным скважинам достигает 120—340 мг/л) и сульфат-иона (100—113 мг/л). Наиболее значительное возрастание содержания нитратов за период наблюдений "Водоканалом" было в 1990—1992 годах. По критериям содержания антропогенного загрязнения восточное крыло водозабора можно отнести к загрязненным и условно загрязненным. То есть проблема уже существует, но она будет усугубляться с реализацией генплана застройки столицы.

Отбор подземных вод на нужды города — один из техногенных факторов, который сформировал нынешний облик города. В частности благодаря ему осушено Комаровское болото, на месте которого в районе водозабора сформирована так называемая депрессионная воронка, размеры которой составляют примерно 12 на 7,5 км. В ее зоне уровень грунтовых вод в свое время понижался до отметки минус 10 метров, но сегодня он много выше. Вода уже появилась на дне контрольных ям на территории Института мелиорации, то есть ее уровень — не ниже отметки минус 2 метра! Поэтому вопрос, безопасно ли строить здесь высотные здания, на мой взгляд, является риторическим.

Но это еще не все. Есть такой показатель — экологическая стабильность территории. Так вот, в районе усадебной застройки вдоль улицы Богдановича и в границах ул. Богдановича, Тиражной, Собинова, Корш-Саблина, территории института БелНИИМиЛ, вдоль ул. Некрасова он достиг критической величины. Средневзвешенный коэффициент естественной защищенности территории в целом по этому району составляет 0,16, что оценивается в условиях г. Минска как низкий. Показатель 0,10 считается уже критическим. Это указывает на то, что в пределах рассматриваемого района отсутствуют чисто природные ландшафты, а природно-техногенные (зелень общего пользования) занимают очень малую площадь (19, 6%), что не обеспечивает способности активно противостоять техногенным нагрузкам. Дальнейшее увеличение площади промышленно-производственных и транспортных территорий, многоэтажных жилых застроек, административно-общественных зданий создает предпосылки к резкому ухудшению состояния окружающей среды и возникновению ситуации, которая потребует проведения дорогостоящих планировочных, инженерно-технических и санитарно-гигиенических мероприятий по их ликвидации.

Есть и еще одна особенность территории, о которой идет речь. В 1990—1991 годах Международным центром экологического обучения "Беларусьэкология" проводились исследования загрязнения почвы в районе бывшей Болотной станции. Отбор проб производился с глубины 0—10 см. Анализы показали, что в почве есть кадмий, цинк, медь, никель, свинец. Причем кадмий находится на территории бывшей Болотной станции (ныне парк имени Дружбы народов) в большом количестве. Высокий уровень содержания кадмия в почвах болотного массива труднообъяснимый, так как существование других небольших по площади аномалий этого элемента в северной части города. Однако их приуроченность к богатым органическим веществам, почвам, обладающими барьерными функциями по отношению к большинству тяжелых металлов, указывает на существование (возможно в прошлом), интенсивного техногенного источника в этом районе. Территория Болотной станции приурочена к почвенно-геохимическая аномалия с наиболее высоким уровнем загрязнения. Надо сказать, что высокие уровни содержания кадмия в почвах болотного массива трудно объяснимы, но факт остается фактом. Поэтому здесь необходимо в срочном порядке проводить эффективные мероприятия по сдерживанию интенсивного почвенного загрязнения.

Как уже было сказано, сейчас идет устойчивый подъем уровня грунтовых вод в контрольных ямах на территории Института мелиорации. Впереди, по моему мнению, техногенная катастрофа.

Если уровень грунтовых вод поднимется до загрязненного слоя почвы, то может произойти отравление воды кадмием и другими тяжелыми металлами. А кадмий — высокотоксичный металл, который легко вступает в различные соединения. Даже ничтожные доли производных этого элемента являются токсичными. Так, при случайном потреблении 20 мл. 0,9% раствора сульфата кадмия — смерть неменуемая. Кадмий легко вступает в соединение с кислородом, образуя оксид кадмия. Вдыхание паров пыли и паров кадмия в концентрации более одного 1 мл/н$^3$ в течение 8 часов приводит к отеку легких. Вот и представьте, какая катастрофа произойдет, если кадмий попадет в воду. Ведь перекрыть весь водозабор за короткий срок невозможно. Люди еще какое-то время будут пользоваться загрязненной водой.

Один из белорусских парламентариев, занимающийся экологией, как-то на мои доводы сказал следующее: "В настоящее время разведаны запасы чистой подземной воды в районе Вязынки. Так что ничего страшного нет, если и придется отказаться от использования Новинковского водозабора для питьевого водоснабжения Минска ". Вот какая позиция. А что думают по этому поводу ученые, санитарные службы? Интересно узнать их мнение.

Оценка риска здоровью в области строительных решений легла в основу управленческих решений многих стран мира, национальных планов действий по гигиене и охране окружающей среды. А у нас экологическая экспертиза проектов часто проводится после выполнения проектных работ, что является грубейшим нарушением требований экологических конвенций белорусского законодательства, что ставит соответствующие институты Минска в сложное положение. Новый генеральный план также не стал тому исключением. Он был утвержден без достаточно грамотной экологической экспертизы. Его разработчики, например, не сочли необходимым привлечь институты ЦНИИКиВР и другие к экспертизе проекта. Похоже, генплан готовился в спешке.

Но не будут ли наши дети и внуки расплачиваться за эту поспешность?

**Леонид ВЕЛИЧКО, инженер.**

**P.S.** *Более подробная информация размещена в августовском номере "Белорусской думки".*

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ

# Памёр па дарозе ў бальніцу

У гаспадарцы "Стары дварэц" Берастаўіцкага раёна зранку рыхтавалі да працы зернесушылку. Нечакана адбыўся выбух. Ім разбураны цагляны будынак, рабочы атрымаў цяжкія раненні, ад якіх памёр па дарозе ў бальніцу,

Што ж стала прычынай трагедыі? Аказваецца, рабочы парушыў тэхналогію запуску печы, не зрабіў яе прадуўку, вось кацёл і ўзарваўся.

Крыху раней з-за абыякавасці загінуў рабочы ў Віцебску. Вечарам у адкрытым акцыянерным таварыстве "Віцебскдрэў" рабілі дэмантаж старога бункера. Работу выконвалі чатыры работнікі на чале з намеснікам начальніка рамонтна-механічнага цэха прадпрыемства. Апошні не ўтрымаўся, упаў з вышыні і разбіўся.

Пры выкананні работ на вышыні рабочыя павінны мець індывідуальныя сродкі ахоўы, у дадзеным выпадку страхавачныя паясы. У загінуўшага такога пояса не было.

Падобныя выпадкі здараюцца амаль штотыднёва. У першым паўгоддзі гэтага года на вытворчасці загінула 110 чалавек, цяжка траўміравана 407.

І прычыны ў большасці аднолькавыя — слабая ўвага да пытанняў аховы працы і тэхнікі бяспекі. Возьмем РУП "Будаўніча-мантажны трэст № 22" горада Полацка. Па нарматывах у калектыве павінна быць 9 спецыялістаў па ахове працы. Ёсць толькі чатыры, ды і тыя працуюць па сумяшчальніцтве. Навучанне рабочых тэхніцы бяспекі вядзецца на нізкім узроўні і час ад часу. Нясвоечасова выдаюцца спецвопратка і індывидуальныя сродкі аховы. За парушэнні будаўнічых нормаў і тэхнікі бяспекі працы адказныя асобы трэста не раз прыцягваліся да адказнасці, але недахопы застаюцца.

За першае паўгоддзе ў краіне выяўлена больш як 160 тысяч парушэнняў заканадаўства аб працы і ахове працы. На сайце Міністэрства працы і сацыяльнай абароны прыведзены такія даныя: з-за парушэнняў патрабаванняў аховы працы ў першым паўгоддзі прыпыняўся вытворчы працэс на 344 вытворчых участках, было спынена каля 10 тысяч адзінак абсталявання, аштрафавана 4,4 тысячы адказных асоб, прыцягнута да крымінальнай адказнасці 27 службовых асоб.

Гучыць унушальна, але колькасць няшчасных выпадкаў не змяншаецца. Чаму? Што з'яўляецца асноўнай прычынай такой з'явы? Думаецца, уся справа ў крызісе, які ахапіў эканоміку. Многія прадпрыемствы не ад добрага жыцця ў свой час скарацілі службы, якія сочаць за выкананнем правіл тэхнікі бяспекі. Гэта не магло не адбіцца на росце няшчасных выпадкаў і траўматызму на вытворчасці. І цяпер у пагоні за высокімі паказчыкамі некаторыя забываюць пра тэхніку бяспекі, пра тое, што няма нічога важней у свеце, чым чалавечае жыццё.

**Алесь ДРАБЧУК.**
**Фота photo.bymedia.net**

ОТКРОВЕННО

# Забугровые деньги

Последние несколько лет огромной популярностью пользуется работа за границей, особенно среди студентов. Причина — большие деньги за относительно короткие сроки. Это выгодный обмен для обеих сторон: приезжим работодатели платят меньше, чем соотечественникам. Но мы не в обиде: даже их "меньше" для нас весьма ощутимые суммы. Все очень привлекательно: страну посмотришь и материальное положение поправишь. Но, как везде, — здесь тоже есть свои подводные течения. Сексуальное рабство, о котором так часто слышим благодаря средствам массовой информации, — понятное дело. Однако рабство — это не только проституция. Но обо всем по порядку.

Одна моя знакомая только что вернулась с заработков из Англии. С ее помощью я решила выяснить все нюансы.

Наталья учится на платном отделении БГЭУ. И настал весьма критический момент, когда за учебу стало абсолютно нечем платить. В Беларуси за относительно короткие сроки "больших" денег не заработаешь. Да и вообще люди с образованием никуда устроиться не могут, а что говорить о студентах дневного отделения! Вариант у нее был один: брать академический отпуск и ехать за рубеж.

**Наташа:**

— Не могла дождаться, когда уеду. Заключила контракт, должна была работать в отеле. Сначала две недели обучалась языку. Еще тарелки учили носить. *(Смеется.)* Потом отправили непосредственно в отель. А на прощанье сказали: смотрите, будет тяжело.

**— Настороженно?**

— Нет, сразу не придала большого значения. Потом вспомнила и поняла, о чем речь.

**— И о чем же речь? Что, очень сильно загрузили работой?**

— Загрузили, но не сразу. Я попала в самый ужасный отдел, по крайней мере для девушки. Там никто работать не хотел. Основная обязанность — обслуживать банкеты. Под обслуживанием подразумевается все: принести столы, стулья. (представляешь, на 200 человек), протереть, расставить посуду, приборы столовые. Много всяких других вещей.

**— Но ты же не одна работала в отеле, неужели сотрудники не могли помочь?**

— Ни о какой помощи не могло идти и речи. Мне говорили: это твоя работа, сама делай. Сразу было жутко обидно. Стоят несколько мужиков в стороне и смотрят, как ты надрываешься.

**— Какая бесчеловечность! А вообще, ты с коллективом быстро сошлась?**

— Как сказать... По приезде в отель недели две просто молчала. Не могла их язык понять, не знала, о чем с людьми говорить. Да еще сленг, которого в наших учебниках по английскому языку нет. Потом привыкла, приспособилась. Знаешь, они там матом очень сильно и много ругаются *(улыбается)*.

**— От несладкой жизни, что ли?**

— Действительно, жизнь не сладкая. Четкого графика работы нет. Можешь в день пять часов отработать, а можешь 24 часа вообще без сна. Как-то было: после долгой смены пошла совершенно измотанная спать. Меня среди ночи разбудили и сказали — иди работай. И ничего не поделаешь.

**— Возражать не пробовала?**

— А что я могу?! Они за это любят русских (о Беларуси вообще представления не имеют) — никаких прав и очень трудолюбивы. Скажешь слово — и твоя судьба на волоске. Поэтому приходилось делать все.

**— Ты только банкетами занималась?**

— Нет, что ты! И горничной была, и уборщицей, и посудомойкой. Все, что скажут, делала.

**— Выходные хоть были?**

— Были — два выходных в неделю.

**— Как проводила?**

— Первые месяцы оставалась в отеле. Но там невыносимо скучно. Вообще нечего делать. Купила телевизор. И это скоро надоело.

**— А мужчины приставали?**

— Поначалу ни один мужик не проходил мимо. Не потому, что я такая "супер-пупер". Просто свежее женское лицо. И пока не наорешь, не отстанет.

**— Как-нибудь пыталась спасаться?**

— Как спастись?! В рабочее время терпела. В свободное — пыталась сбежать от всех. А затем подружилась с девушками-сотрудницами, стали ездить в Лондон на дискотеки. Отель наш недалеко от английской столицы находился. Но самое главное — он один в поле стоял, а вокруг частные владения.

**— Какие были условия проживания?**

— Я платила 25 фунтов в неделю и имела маленькую комнатушку с тумбочкой и кроватью, больше в ней ничего не было. Питалась три раза в день. Но кормили плохо...

**— Ну а денег-то заработала?**

— Заработала. Учебу оплатила, долги вернула, и немного себе осталось: одеться, "на жизнь". Не так много, как хотелось бы, хотя, в принципе, я не жадная, мне хватит.

**— Как думаешь, стоит ехать тем, кто хочет заработать, возможно, чтобы дело открыть, както развернуться?**

— Нет, на дело свое не заработаешь. Слишком мало, уточнять сумму не буду. И просто все это очень жутко, нервная система расшатывается. Все тебя пытаются морально подавить. Я свое душевное состояние долго восстанавливала.

**— Поехала бы еще?**

— Нет, больше не поеду, хотя кто знает, как жизнь повернется.

**— А что положительного ты извлекла из поездки, кроме материальной выгоды?**

— В первую очередь научилась разбираться в людях, приобрела огромный жизненный опыт. Здесь, в Минске, такому за пять лет не научишься. Остались еще связи с друзьями (сотрудниками) в Испании, и, конечно, в самой Англии.

**— Замуж не предлагали выйти? Остаться там?**

— Предлагали. Не хочу! У меня здесь мама, друзья. Да и просто я бы там не выжила. Менталитет другой. Не надо мне все это!

**— Патриотка?**

— Нет, просто не хочу, не мое.

**— Понятно. Спасибо.**

**Вероника МЕЛЬНИК.**

## Ордэна Янкі Купалы не будзе

Міністэрства культуры не падтрымала прапановы грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (ГА ТБМ) аб заснаванні ордэна Янкі Купалы.

У інтэрв'ю БелаПАН старшыня ГА ТБМ Алег Трусаў нагадаў, што ў 2007 годзе спаўняецца 125 гадоў з дня нараджэння народнага паэта Беларусі (07.07.1882 — 28.06.1942). "Кіраўніцтва аб'яднання звярнулася ў Адміністрацыю прэзідэнта з прапановай заснаваць ордэн Янкі Купалы. Аднак нядаўна мы атрымалі ліст з Міністэрства культуры, змест якога сведчыць аб тым, што з невядомых прычын улады не жадаюць засноўваць такую дзяржаўную ўзнагароду", — паведаміў А.Трусаў.

Ён лічыць, што ў найбліжэйшыя некалькі гадоў ордэн Я.Купалы ўсё-такі будзе заснаваны, бо Янка Купала з'яўляецца "найвялікшым беларускім палітыкам і паэтам XX стагоддзя".

**Марат ГАРАВЫ.**

## Студэнты ЕГУ будуць навучацца за мяжой?

Неўзабаве кожнаму быламу студэнту Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта будуць прапанаваны варыянты пераводу ў замежныя ВНУ. Аб гэтым 17 жніўня заявіў рэктар ЕГУ Анатоль Міхайлаў на онлайн інтэрнет-форуме, арганізаваным на сайце Радыё Свабода: www.svaboda.org

Так, паводле яго слоў, каля 40 студэнтаў могуць быць прыняты ва універсітэты ЗША, 100 студэнтаў ЕГУ — у ВНУ Германіі. А Польшча, напрыклад, гатова прыняць усіх студэнтаў універсітэта, сказаў рэктар. "Я прыемна здзіўлены такой радыкальнасцю, — падкрэсліў у сваім выступленні А.Міхайлаў, — і буду абмяркоўваць пытанне ўладкавання студэнтаў у Амерыканскі універсітэт у Балгарыі (AUBG)".

Цяпер Анатоль Міхайлаў знаходзіцца ў Вашынгтоне (ЗША) на стажыроўцы ў Інстытуце Кенана ў Цэнтры Вудра Вільсана.

Нагадаем, што 27 ліпеня міністр адукацыі Беларусі Аляксандр Радзькоў падпісаў загад № 838 аб ануляванні ліцэнзіі на адукацыйную дзейнасць, выдадзеную Еўрапейскаму гуманітарнаму універсітэту. ЕГУ дзейнічаў з 1992 года. Ва універсітэце навучалася каля тысячы студэнтаў, амаль 100 магістрантаў і 50 аспірантаў.

**Вольга АСІПЕНКА.**

РЭГІЁН

## На дырэктара — раўняйся!

Своеасаблівы абласны рэкорд устанавіў дырэктар вытворчага ўпраўлення "Глыбокаерайгаз" Віктар Яцук. Ён 102 разы падняў палутарапудовую гіру на абласной спартакіядзе работнікаў прадпрыемства "Віцебскаблгаз". Пераўзысці волатаўскае дасягненне галоўнага газавіка Глыбоччыны не здолелі нават вопытныя гіравікі з Віцебска і Оршы, якія занялі адпаведна трэцяе і другое месцы на турніры.

Магутны прыклад Віктара Яцука натхняе ўвесь калектыў Глыбоцкага райгаза, працаўнікі якога вызначаюцца здаровым ладам жыцця. Яны не раз выходзілі на першае месца ў раённых, абласных і нават рэспубліканскіх спаборніцтвах прадстаўнікоў галіны.

## Кампактная Віцебшчына

Віцебскае культурна-асветніцкае аб'яднанне "Праметэй" прыняло ўдзел у дзяржаўнай праграме "Электронная Беларусь". Дырэктар гэтага аб'яднання Уладзімір Лапін разам з намеснікам старшыні камітэта эканомікі аблвыканкама Канстанцінам Чорным правялі прэзентацыю кампакт-дыска "Віцебская вобласць". Новы мультымедыйны носьбіт утрымлівае сціслую, насычаную фактамі і лічбамі інфармацыю аб Віцебшчыне ў розных яе аспектах: эканамічным, культурным, гістарычным, турыстычным, а таксама ў галінах інвестыцыйных магчымасцяў і перспектывах дзелавога і творчага супрацоўніцтва ў інавацыйным плане.

Дыск, падрыхтаваны маладымі распрацоўшчыкамі аб'яднання "Праметэй", мяркуецца выпускаць пэўнымі тэматычнымі серыямі, пастаянна дапаўняючы яго новымі звесткамі. У бліжэйшы час будзе выпушчана англамоўная версія дыска "Віцебская вобласць". Плануецца таксама змяшчэнне яго тэксту ў Інтэрнэце.

## «Металісты» палююць ноччу

За адну жнівеньскую ноч завулак Цагляны ў пасёлку Барань Аршанскага раёна пазбавіўся васьмі накрывак з каналізацыйных люкаў. Неўзабаве высветлілася, што аматарам крадзяжу "цяжкага металу" з'яўляецца мясцовы жыхар. Агульны кошт скрадзеных чыгуначных накрывак склаў 500 тысяч рублёў, так што злодзей пасля суда над ім хутчэй за ўсё накіруецца за краты. Яму яшчэ, так бы мовіць, пашчасціла, бо ніхто не паспеў праваліцца ў каналізацыйныя калодзежы і зламаць сабе ногі або шыю. Калі б здарылася такое няшчасце, бараньскаму "металісту" прыйшлося б адказваць і за страту здароўя ахвяр дарожных пастак.

Часцяком не спяць ноччу з мэтай палявання на метал злодзеі заходніх сельскіх раёнаў Віцебшчыны. Яны, праўда, цікавяцца не чыгуном, а больш дарагім і лёгкім алюмініем. За нейкую гадзіну спрытныя хлопцы знялі з лініі электраперадачы каля вёскі Якаўкі Ушацкага раёна пяць пралётаў проваду даўжынёй 650 метраў і вагой 100 кілаграмаў.

А ў Шаркоўшчынскім раёне начныя верхалазы зрэзалі 3 кіламетры правадоў высакавольтнай лініі, з-за чаго выйшла са строю электрападстанцыя ля вёскі Галінава, што прывяло да адключэння электрычнасці на жывёлагадоўчай ферме, воданапорнай вежы і млыне. Агульныя страты ад гэтага злачынства перавысілі два мільёны рублёў.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

РЕПЛИКА

## Так хорошие у нас комбайны или не очень?

*Я внимательно ознакомился с отчетом о посещении Александром Лукашенко ОАО "Лидаагропроммаш" и разговоре о наших комбайнах. Так и не понял, хороша наша уборочная техника или так себе.*

В отчете читаем: *"Как заверили Президента комбайнеры, лидские машины хорошо проявляют себя на жатве и отличаются простотой в эксплуатации, удобством. Всегда под рукой имеются запасные детали. "Комбайны нам нравятся. Они вполне надежны", — такое мнение высказали в разговоре с Президентом сельские работники"*.

Если комбайны "хорошо проявляют себя на жатве" и "вполне надежны", то зачем "всегда под рукой имеются запасные детали"? Мне кажется, что если без запасных частей на комбайне опасно выезжать в поле, то это вовсе не надежная техника.

В отчете сказано, что *"Президент ознакомился с процессом сборки уборочных машин, побывал в механическом, сварочном цехах, в цехе высоких технологий... В ходе всей рабочей поездки Глава государства лично наблюдал за работой различных образцов отечественных комбайнов, лично испытывал их, находясь в кабине машин, подробно интересовался техническими характеристиками уборочной техники непосредственно у механизаторов"*. В результате сделал такие выводы: *"Эти комбайны спасли наш хлеб. Наши сельхозмашиностроители поработали неплохо: быстро освоили новую гамму комбайнов и оперативно, по приемлемым ценам поставили их в хозяйства, организовали систему сервисного обслуживания. Они выполнили напряженное и ответственное поручение Главы государства — выручили сельчан в самый трудный период"*.

В другом месте отчета читаем: *"Как подчеркнул Президент, производство комбайнов "Лида-1300" и "Лида-1500" будет продолжено, но относительно цены на данную технику еще предстоит серьезный и принципиальный разговор. "Вы продаете сельскому хозяйству пока очень дорогие комбайны. Все это закладывается в стоимость молока, хлеба, мяса и в конечном счете имеет последствия для всего населения страны. Я этого допустить не могу", — подчеркнул белорусский лидер. При условии, что ОАО "Лидаагропроммаш" будет ежегодно снижать стоимость продукции, повышая при этом качество, государство готово закупать 300 комбайнов. В свою очередь, стоимость продукции "Гомсельмаша" также может быть снижена почти на 25—30%, убежден Президент"*.

Ну так "по приемлемым ценам" поставляют технику или продают "сельскому хозяйству пока очень дорогие комбайны?" В общем, трудно понять, что хотели подчеркнуть авторы отчета.

**Сергей ИВАНОВ.**

## Хотите стать депутатом? Прочитайте Михаила Плиско

*При содействии Фонда имени Фридриха Эберта подготовлено практическое руководство по избирательному законодательству Республики Беларусь. Автор — юрист М.Плиско.*

В брошюре приводится анализ избирательного законодательства, регулирующего проведение выборов депутатов Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь, содержатся практические рекомендации по выдвижению представителей в избирательные комиссии, кандидатов в депутаты от политических партий, трудовых коллективов и граждан путем сбора подписей, по заполнению документов, необходимых для регистрации в качестве кандидата в депутаты, ведению предвыборной агитации и организации наблюдения во время выборов.

Брошюра предназначена для кандидатов в депутаты и их доверенных лиц, других участников избирательного процесса, а также правоведов, интересующихся проблемами избирательного законодательства, политологов.

**Сергей КУПРИЯНОВ.**

АЛІМПІЯДА-2004

# Няўжо мы заваюем медаль?

*За чатыры дні алімпійскіх спаборніцтваў разыграны 50 комплектаў узнагарод. Медалі заваявалі прадстаўнікі 41 краіны. У медальным спісе Беларусь дагэтуль не значылася...*

Праўда, цалкам верагодна, што ўчора вечарам скарбонка медалёў беларускай зборнай нарэшце папоўнілася ўзнагародай. Справа ў тым, што ўчора на старт павінны былі выйсці штурхальнікі ядра як у мужчын, так і ў жанчын. Сярод удзельнікаў сярэбраны прызёр мінулагодняга першынства свету Надзея Астапчук і чэмпіён свету-2003 Андрэй Міхневіч. Акрамя гэтага, на алімпійскі памост выйдзе бронзавы прызёр чэмпіянату свету-2003 па цяжкай атлетыцы Ганна Бацюшка. Яна будзе спаборнічаць у вагавай катэгорыі да 63 кілаграмаў. Для Андрэя Міхневіча і Надзеі Астапчук запланаваны бронзавыя медалі, а для Ганны Бацюшка — сярэбраны.

Між іншым, не апраўдаўся яшчэ адзін медальны разлік. Беларускай тэніснай пары Максім Мірны/Уладзімір Валчкоў быў запланаваны бронзавы медаль. Нагадаем, што ў 1/8 фіналу нашы тэнісісты трапілі без гульні — траўму атрымаў адзін з мараканцаў. А вось у сустрэчы 1/8 беларусам супрацьстаялі першыя "сеяныя" — браты Боб і Майк Браяны з ЗША. На жаль, беларускі дуэт не знайшоў ніякіх аргументаў у супрацьстаянні са сваімі сапернікамі і саступіў — 3:6,3:6. Так што надзеі беларускіх балельшчыкаў цяпер ускладзены толькі на Мірнага, які у 1/8 фіналу адзіночнага тэніснага турніру згуляе з яшчэ адным амерыканцам Мэрдзі Фішам (*на здымку*).



У беларускіх майстроў маленькай ракеткі справы на Алімпіядзе ідуць нядрэнна. Мінчане Вікторыя Паўловіч і Уладзімір Самсонаў выйшлі ў 1/8 алімпійскага турніру. Вікторыя Паўловіч выйграла ў Нантаны Камвон з Тайланда, а ў наступным крузе Вікторыя згуляе з пятай ракеткай Тамарай Бораш з Харватыі. У сваю чаргу Уладзімір Самсонаў перамог паляка Люцыяна Блашыка.

Следам за Міхаілам Бернадскім і Магамедам Арыпгаджыевым барацьбу на Алімпіядзе распачалі яшчэ два беларускія баксёры — Бато-Муто Ванкееў (вагавая катэгорыя да 51 кг.) і Хаважы Хацыгаў (вагавая катэгорыя да 54 кг.). Хацыгаў перамог у кваліфікацыі пуэртарыканца Хуана Лопеса — 27:19. Наступным сапернікам Хацыгава будзе тайландскі баксёр Варапай Петчкум. А вось Ванкееў свае выступленні на Алімпіядзе скончыў, саступіўшы Хуану Карласу Пайана з Дамініканскай Рэспублікі — 18:26.

У дзюдаістаў пакуль на гэтай Алімпіядзе амаль нічога не атрымліваецца. У вагавай катэгорыі да 81 кілаграма Сяргей Шундзікаў дайшоў толькі да 1/8 фіналу...

У спаборніцтвах плыўцоў наш Станіслаў Невяроўскі заняў у кваліфікацыі толькі 29-е месца на стометроўцы вольным стылем.

Таццяна Драздоўская, якая выступае ў парусным спорце ў класе "Еўропа", заняла апошняе месца пасля чатырох з адзінаццаці гонак...

Але ёсць у беларусаў і больш станоўчыя алімпійскія вынікі. Наш лучнік Антон Прылепаў працягвае паспяховае выступленне. У 1/16 фіналу ён перамог спартсмена з Бутана Ташы Пельора.

Учора раніцай адбылася кваліфікацыя ў жанчын-вяслярак. Кацярына Карстэн у сваім паўфінальным заездзе паказала першы час і 21 жніўня будзе ўдзельнічаць у фінальным заплыве. У кваліфікацыі штурхальнікаў ядра наша Надзея Астапчук заняла першае месца з вынікам 19 метраў 69 сантыметраў. Кваліфікавалася ў фінал яшчэ адна беларуска — Наталля Харанека, якая паказала шосты вынік. Няўжо мы нарэшце прыблізіліся да п'едэсталу?

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**




**Медальная табліца Алімпіяды-2004 пасля чатырох поўных дзён:**

| | З | С | Б |
|---|---|---|---|
| Кітай | 10 | 6 | 2 |
| Аўстралія | 6 | 3 | 5 |
| ЗША | 6 | 7 | 6 |
| Японія | 6 | 2 | 1 |
| Францыя | 3 | 2 | 4 |
| Украіна | 3 | 1 | 1 |
| Расія | 2 | 5 | 5 |
| Італія | 2 | 4 | 3 |
| Турцыя | 2 | 0 | 1 |
| Румынія | 2 | 0 | 1 |
| Венгрыя | 1 | 1 | 1 |
| Германія | 1 | 2 | 1 |
| Паўднёвая Карэя | 1 | 1 | 2 |
| Тайланд | 1 | 0 | 2 |
| Грэцыя | 2 | 0 | 1 |
| ПАР | 1 | 0 | 0 |
| Швейцарыя | 1 | 0 | 0 |
| ААЭ | 1 | 0 | 0 |
| Галандыя | 0 | 2 | 3 |
| Польшча | 0 | 2 | 0 |
| КНДР | 0 | 2 | 1 |
| Аўстрыя | 0 | 2 | 0 |
| Вялікабрытанія | 0 | 1 | 1 |
| Індыя | 0 | 1 | 0 |
| Грузія | 0 | 1 | 0 |
| Інданезія | 0 | 1 | 0 |
| Партугалія | 0 | 1 | 0 |
| Славакія | 0 | 1 | 1 |
| Зімбабве | 0 | 1 | 1 |
| Сербія і Чарнагорыя | 0 | 1 | 0 |
| Бельгія | 0 | 0 | 2 |
| Балгарыя | 0 | 0 | 2 |
| Куба | 0 | 0 | 4 |
| Аргенціна | 0 | 0 | 1 |
| Калумбія | 0 | 0 | 1 |
| Бразілія | 0 | 0 | 1 |
| Манголія | 0 | 0 | 1 |
| Чэхія | 0 | 0 | 1 |
| Канада | 0 | 0 | 1 |
| Славенія | 0 | 0 | 1 |

ЗАКУЛИСЬЕ ОЛИМПИАДЫ

## Секс на Олимпиаде

Секс накануне большого матча вряд ли негативно скажется на результатах. Мало того, он даже способен несколько улучшить показатели, полагают ученые. Вероятно, эта новость немало порадует 17 тысяч атлетов, собравшихся в Афинах.

Еще в 1994 году Берти Фогтс, тогдашний тренер футбольной сборной Германии, запрещал своим подопечным перед играми заниматься любовью. С этим был согласен и Линфорд Кристи, британский спринтер, который говорил, что "постельное двоеборье" перед стартом приводит к тому, что его конечности на следующее утро будто отлиты из свинца. Да и Микки, тренер из фильма "Роки", тоже говорил: "Женщины ослабляют ноги".

Но вот Кейси Стенджел, известный бейсболист, не чурающийся веселых посиделок, считает иначе. "Пребывание с женщиной на протяжении всей ночи не повредило еще ни одному бейсболисту, — сказал как-то Стенджел, бывший тренер двух знаменитейших клубов, "Нью-Йорк янкис" и "Нью-Йорк метс". — А вот поиск женщины на протяжении всей ночи действительно вреден".

В Афины съехалось сейчас так много молодых, привлекательных и физически крепких людей, что олимпийская деревня вполне может превратиться на время в один большой клуб знакомств. Каждые два года по миру расходятся истории о том, как много используется на Олимпиадах презервативов. И эти Игры вряд ли станут исключением.

Для спортсменов в греческой столице уже заготовлено 130 тысяч презервативов и 30 тысяч пакетов со смазкой. В Сиднее каждому атлету выдавали по три презерватива в день, но их не хватало, так что поставляли и дополнительно.

Израильский доктор Александр Ольшанетский за секс голосует двумя руками. По крайней мере, когда речь идет о женщинах-спортсменках. "Мы считаем, что после оргазма женщины добиваются в спорте лучших результатов, — заявил он в 1996 году перед началом Игр в Атланте. — В целом это срабатывает с бегуньями и прыгуньями в высоту. Чем больше оргазмов, тем больше шансов на медаль". "Обычно, — сетует Ольшанетский, — тренеры советуют своим спортсменам воздерживаться. Но в отношении женщин это плохой совет". Правда, предупреждает он, атлеты-мужчины устроены несколько иначе, и занятия любовью, которые мобилизуют женщин, мужчин могут довести до изнеможения.

## Сколько человек смотрят игры?

Представители Международного Олимпийского комитета надеются на беспрецедентно широкое освещение Афинской Олимпиады средствами массовой информации. По их оценкам, репортажи по телевидению и радио с олимпийских площадок увидят и услышат более 4 миллиардов человек. Доходы от телепрограмм — главный источник финансирования олимпийского движения. Для того чтобы получить право на трансляцию Олимпиады в Афинах, телерадиокомпаниям пришлось выложить около 1,5 миллиарда долларов.

## Британский репортер пронес на Игры муляжи бомб

Популярная британская газета "Санди миррор" выступила с разоблачениями дефектов в системе безопасности на Олимпиаде в Афинах, в частности, в преддверии церемонии открытия Игр. Газета утверждает, что ее репортеру Бобу Грэму удалось получить работу на главном стадионе без прохождения процедуры проверки. Репортер тайно посылал свои сообщения в газету до самого открытия Олимпиады.

Более того, он пронес три подозрительных свертка на стадион и оставил их там, причем их так и не обнаружили охранники, регулярно осматривающие все помещения. Газета пишет, что в этих свертках находились материалы, необходимые для изготовления муляжей бомб, в том числе батареи, провода и пластилин, по виду напоминающий пластид.

## Спортсменка из Таиланда «организовала» побег зеков

Два задержанных сбежали из полицейского участка в Бангкоке, воспользовавшись тем, что все охранники смотрели по телевизору трансляцию с Олимпийских игр, сообщает AFP.

Как рассказал прессе представитель полиции Таиланда, офицер, обязанный наблюдать за находящимися в камере людьми, увлекся соревнованиями по тяжелой атлетике. В тот день таиландка Удомпорн Полсак как раз завоевала золото в весовой категории до 53 кг.

Один из сбежавших был задержан по подозрению в убийстве и был позднее пойман, но второй заключенный по-прежнему находится в бегах.

"Виновный офицер пренебрег своими обязанностями. В отношении его будет произведено специальное расследование. Если сбежавший преступник не будет найден в течение 90 дней, полицейский понесет еще и уголовную ответственность", — сказал представитель полиции.

## Во имя любви...

Организаторы Олимпиады вынуждены увеличить количество охранников на олимпийских объектах, сообщает AP. На такой шаг они были вынуждены пойти после того, как вчера канадский болельщик умудрился нырнуть в бассейн.

"Охранники будут стоять вокруг всех полей и вообще всех олимпийских объектов", — сказал исполнительный директор организационного комитета Мартон Симитсек.

Канадец, чье имя не сообщается, был арестован. В ближайшее время ему предстоит встреча с прокурором.

На вопрос организаторов, зачем он вообще нырял в бассейн, канадец ответил, что его обязательно сняло бы телевидение и он смог бы признаться в любви своей жене. Любовное послание было написано на его груди.

## На Олимпиаде учреждена централизованная служба забытых вещей

Как сообщили РИА "Новости" в пресс-службе Оргкомитета "Афины-2004", необходимость введения такой услуги объясняется тем, что зрители, забывшие свои вещи на соревнованиях, не могут забрать их непосредственно на стадионе, поскольку допуск туда без билета запрещен.

В централизованной службе, которая размещается в самом центре Афин недалеко от стадиона "Панатинаико", все забытые на олимпийских аренах вещи будут доставляться в течение максимум двух суток.

Эта служба будет работать ежедневно как в будние, так и в выходные дни во время Олимпийских и Паралимпийских игр. Правда, в промежутке между Играми забывчивые зрители смогут воспользоваться услугами службы только по будням.

**Би-Би-Си, Лента RU.**

## Четверг, 19 августа

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.00** Новости.
**07.05 "Богач, бедняк...". "Томас".** Сериал.
**08.25, 19.25** "Пьедестал".
**08.35, 00.05** "Дневник Олимпиады".
**09.10, 23.05 "Спрут".** Сериал.
**10.05** "Следы". Док.сериал.
**11.00, 22.00 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.10** Слово Митрополита Филарета на праздник Преображения Господня.
**12.20** "Молитвы Божественный свет". Видеофильм АТН.
**12.35** "Соло для дебютанта".
**12.45 "Мировой парень".** Мелодрама.
**14.05** "Звездный дождь".
**15.15** Мультфильм.
**15.25 "Про Красную Шапочку".** Муз.фильм.
**16.30, 19.30** Олимпийские игры в Афинах.
**18.15 "Ах, водевиль, водевиль..."** Комедия.
**21.00** "Панорама".
**21.50** "Права человека. Взгляд в мир".

**ОНТ**

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.10** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05 "Вместо меня".** Мелодрама.
**10.50** "Дисней-клуб".
**14.55** "Идолы".
**15.20 "Следствие ведут Знатоки".** Сериал.
**16.15 "Женщины в любви".** Сериал.
**17.05** "Личная жизнь Валентины Терешковой".
**18.10 "Клон".** Сериал.
**20.00** "Время".
**21.00 "Черный ворон".** Сериал.
**22.00 "Свадебный переполох".** Комедия.
**22.10 "Улицы разбитых фонарей".** Сериал.
**23.25 "Кэрри".** Триллер.

**РОССИЯ**

**07.45, 16.50 "Бедная Настя".** Сериал.
**08.45, 19.55 "Каменская-2".** Сериал.
**09.50, 18.45** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30, 22.00** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50** "Что хочет женщина". Ток-шоу.
**11.50, 21.00 "Марш Турецкого-3".** Сериал.
**16.20** "Кулагин и партнеры".
**17.50 "Комиссар Рекс".** Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!".
**22.20 "Свадебный переполох".** Комедия.

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10, 22.10 "Отцы и дети".** Драма.
**09.30** "Здоровье".
**10.00** "Дневник Олимпиады".
**10.20, 21.15** "Тайны Ниро Вульфа". Детектив.
**11.10** "Между нами, женщинами".
**11.30, 18.40 "Подросток".** Драма.
**12.50** "Живые камни". Док.сериал.
**13.15** Мультфильмы.
**14.10** "Приключения в затерянном мире". Мультсериал.
**14.35** "Не зевай!".
**14.50 "Нежный возраст".** Сериал.
**15.20** "Судьба животных". "Волк". Док.сериал.
**16.10** "Встреча в Троицком" с Александром Домарацким".
**16.35** А.Мдивани. "Денис Давыдов". Спектакль.
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".

**НТВ**

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** "Сегодня".
**09.25** "Квартирный вопрос".
**10.20** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино".
**16.30 "МУР есть МУР".** Сериал.
**17.35** "Протокол".
**18.40 "Родина ждет".** Сериал.
**19.50 "Я все решу сама".** Сериал.
**21.00** "Страна и мир".
**21.45 "Возврата нет".** Боевик.

**СТВ+RenTV**

**06.25, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.35** "Близнецы судьбы". Мультсериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.00** "Светская хроника".
**08.15, 23.10** "Технология".
**08.25** "Судьбы своей хозяйка".
**08.45** "Рыцари света". Мультсериал.
**09.35 "Черный пояс".** Боевик.
**11.00** "Проект "Отражение". Док.фильм.
**11.45** "Ecce Homo".
**12.00** "Час суда".
**12.45** "Безумный мир". Док.фильм.
**13.50** "NEXT-3". Сериал.
**14.45 "ОБЖ, или Особое желание". "ОБЖ, или Операция "Бумажный змей".** Сериал.
**15.45** "Маска". Мультсериал.
**16.15** "Добро пожаловаться..."
**16.50** "Энергоэффективность в действии. Брестская область".
**17.00 "Веселая компания".** Сериал.
**18.15** "Театральные истории".
**18.30 "Любовь императора".** Сериал.
**20.10** "Тема дня".
**20.20** "Добрый вечер, малыш".
**20.35** "Таинство времени". Видеофильм.
**20.55 "Высокое напряжение".** Боевик.
**23.20** "Турпоход".
**23.30** "Новости мировой шоу-индустрии".
**00.15 "Секретные материалы".** Сериал.
**01.00** "Новости СНГ".

**8-Й КАНАЛ**

**07.00, 16.45 "Визит к Минотавру".** Сериал.
**08.10, 17.50, 21.00** "Телемагазин".
**08.15** Программа мультфильмов.
**09.15, 19.30** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...
**09.20** "Трюкачи Голливуда".
**09.40, 19.50 "Горец".** Сериал.
**10.30, 21.10 "Окно в Париж".** Комедия.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**18.00 "Егор Булычев и другие".** Драма.
**19.35** "Последний миф". Док.сериал.
**20.45** "Вечарніца".

**ТВ ЦЕНТР**

**04.45, 06.30** "Настроение".
**07.35 "Большие деньги".** Драма.
**09.20** Мультфильм.
**09.40** "Войди в свой дом".
**09.45** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.05 "Голубой велосипед".** Мелодрама.
**12.05, 23.05** "Петровка, 38".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.30** "Музыкальный серпантин".
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** "Кинострана Артек".
**16.00 "Парижский полицейский".** Сериал.
**17.15** "21-й кабинет".
**18.00 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**18.55 "Подставь другую щеку".** Комедия.
**20.40** "Репортер" с Михаилом Дегтяремом".
**21.40 "По закону".** Сериал.
**22.35** "Времечко".
**23.25** "25-й час. События. Время московское".
**23.45** "Супердиск".
**00.05 "Урожай".** Триллер.

**EUROSPORT**

**04.00** Спортивная гимнастика.
**05.00, 14.00, 22.45** Бокс.
**06.00, 10.00, 03.00** Плавание.
**07.00, 07.45** Новости к завтраку.
**07.30, 08.15, 01.00** "Цель — Афины".
**08.30** Академическая гребля.
**12.15** Гребля на байдарке и каноэ.
**13.45** Новости Олимпиады.
**16.30, 01.15** Тяжелая атлетика.
**18.15** Дзюдо.
**19.15** Новости Олимпиады.
**19.30** Плавание. Прямая трансляция.
**21.00** Спортивная гимнастика.
**23.30** Фехтование.
**00.00** Олимпик-экстра.
**02.15** Волейбол.

**19**

**жнівень**

**ЧАЦВЕР**
Усх. 5.55 Зах. 20.31
Даўж. дня 14.36
Маладзік 16 жніўня

**100 гадоў** з дня нараджэння А.М. Самарава (сапр. Маркін) (1904—1977), акцёра, заслужанага артыста БССР

ЛЁСЫ ЛЮДСКІЯ

# Вяртанне страчанага шчасця

Ён сядзеў ля акна і глядзеў, як вецер зрывае са старой бярозы апошняе лісце, кружыць яго і нясе невядома куды. Страшна хацелася пахмяліцца. Ён закурыў і наважыўся апрануцца, каб ісці ў вёску ды купіць у каго паўлітру. Якраз у хату з вядром увайшла маці. Яна ўсё зразумела без слоў і заплакала горкімі слязьмі, выціраючы ражком хусцінкі запалыя вочы.

— Сынок, едзь ты куды палячыся. Людзі ж неяк ратуюцца ад алкагалізму, не п'юць гадамі, а то і назусім пазбаўляюцца ад гэтай пакуты. Паспрабуй...

Праз якую гадзіну Іван Кедала паехаў са сваёй роднай вёскі ў Зэльву, потым у Слонім у наркалагічнае аддзяленне. У аўтобусе сустрэў чалавека, такога ж самага небараку. Сказаў яму пра сваё жаданне лячыцца ад алкагалізму.

— Разумееш, браток, усё надакучыла. Была ў мяне сям'я, але гарэлка нас развяла, асіраціла маленькага сына. Была цікавая работа ў авіяцыі. Я ж тэхнік-механік. І гэта страціў. Вярнуўся дадому. Маці кожны дзень плача, як па нябожчыку. Больш так жыць не магу, не хачу.

— Я нічога не маю супраць слонімскіх дактароў, але пад'едзь ты ў Дзятлаўскі раён. Там непадалёку ад райцэнтра ў былым панскім маёнтку Жыбартаўшчына знаходзіцца наркалагічнае аддзяленне мясцовай бальніцы. Алкаголікаў вяртае да жыцця доктар Белавус. Ды і я з табой разам паеду паратунак шукаць.

Яны выйшлі на аўтастанцыі ў Дзятлаве і пайшлі палявой дарогай да старога будынка ў высачэнных дрэвах.

Доктар Віктар Белавус ужо тады меў вышэйшую катэгорыю, стажыраваўся ў Варшаве, і справу сваю ведаў дасканала. Ён лячыў цела і душу, стараўся давесці да свядомасці пацыентаў, што так жыць нельга.

Праз некаторы час Іван Кедала выпісаўся з бальніцы з вялікім жаданнем пачаць новае цвярозае жыццё. А куды падацца? Чым заняцца? Аб гэтым і сказаў свайму добраму доктару.

— Дапаможам, — коратка адказаў той. Ён запрасіў Івана ў машыну і завёз у вёску Раклевічы, дзе быў цэнтр калгаса "Расія" і дзе старшынёй тады працаваў добры і спагадлівы чалавек Пётр Пятровіч Свіб.

— Вазьміце, калі ласка, яго на работу. Ён і на трактары можа працаваць, і на камбайне, — папрасіў доктар. Пётр Пятровіч ведаў, адкуль у Віктара Мікалаевіча Белавуса розныя спецыялісты, але і ён не мог пакінуць чалавека ў бядзе. Лічыў, што трэба даць магчымасць вярнуцца да нармальнага жыцця.

Старшыня ўзяў яго трактарыстам, дапамог знайсці прыватную кватэру.

Аднойчы Іван па справах заехаў на ферму і ўбачыў там прыгожую маладую жанчыну. Распытаў пра яе ў сваёй кватэрнай гаспадыні.

— Слаўная жанчынка, што і казаць, — абазвалася кабета. — Уцякла ад мужа-алкаголіка з другога раёна і з чатырма малымі дзеткамі прыехала да нас. Працавітая, акуратная, і дзеці дагледжаны.

— Навошта ж я ёй здаўся? — падумаў Іван Мікалаевіч. — Ад аднаго алкаголіка ўцякла, а тут другі на падыходзе. Прагоніць. Нават няварта і знаёміцца.

Але яны пазнаёміліся, бо жвавы працавіты малады чалавек ёй таксама прыйшоўся па душы. Праз некаторы час Марыя Іосіфаўна прыняла яго ў сваю сям'ю, а Пётр Пятровіч Свіб выдзеліў ім вялікі прасторны дом з шасці пакояў, з верандай.

Самы старэйшы з дзяцей — Саша — тады хадзіў у трэці клас. Толькі што пайшоў у школу Паша. Вова і Оля былі яшчэ дашкольнікамі. А неўзабаве ў сям'і Кедалаў нарадзілася маленькая Танюшка.

Іван Мікалаевіч разумеў, што ён у адказнасці за гэтых хлопчыкаў і дзяўчынак і перад Богам, і перад людзьмі. Дзеці верылі яму, таксама, як і іхняя маці. "Я ніколі не прычыню ім крыўды", — не раз думаў шматдзетны бацька, гледзячы на сваіх мілых прыгожых дзетак.

Ён працаваў да сёмага поту. Летам на камбайне, а так — на трактары. Яго хвалілі, узнагароджвалі, ушаноўвалі. Пяць гадоў запар яны з Марыяй Іосіфаўнай былі сямейным экіпажам на камбайне ў час жніва. На ферме яе падмянялі іншыя даяркі, а яна — з мужам на камбайн. Добрую капейку зараблялі тады. Праз тры гады купілі легкавую аўтамашыну.

...Яны разам пятнаццаць гадоў. Выраслі дзеці. Усе яны таленавітыя і працавітыя. Саша, Паша і Вова закончылі Мірскае мастацкае вучылішча, бо ўсе вельмі добра малююць, маюць мастацкі густ. Да таго ж Саша закончыў Мінскі індустрыяльна-педагагічны каледж. Цяпер працуе столярам у Баранавічах. Робіць цудоўныя рэчы з дрэва. Ажаніўся.

Паша жыве і працуе ў Мінску, Валодзя ў Гродне ў прыватнай фірме.

Оля таксама ў Мінску. Закончыла каледж. Працуе ў "Мілавіцы". Таня сёлетняй восенню пойдзе ў восьмы клас.

Марыя Іосіфаўна перайшла працаваць у школу лабарантам і вартаўніком.

Усё было б нічога, але Іван Мікалаевіч не так даўно перанёс інфаркт. Урачы на камісіі давалі яму другую групу інваліднасці, а ён папрасіў трэцюю. Рэдкі выпадак. Звычайна бывае наадварот.

— Каб быў на другой групе, то сядзеў бы дома і чакаў смерці. Не, гэта не для мяне. Я працаваць хачу, быць з людзьмі, у руху.

Цяперашні старшыня калгаса Казімір Адамавіч Сёмуха даў яму лягчэйшую работу: прызначыў памочнікам брыгадзіра ў суседнюю вёску Норцавічы. Фізічна працаваць не трэба, а руху і сапраўды шмат. Рана зыходзіць з дому, позна вяртаецца. Загарэлы да чарнаты, задаволены.

— Марыі цяжкавата, — шкадуе ён жонку. — Уся гаспадарка на ёй. У нас жа дзве каровы, козы, гусі, куры, свінні. Добра, што дзеці прыязджаюць дапамагаць.

Марыя Іосіфаўна аказалася не толькі цудоўнай маці, жонкай, але і нявесткай. Чатыры гады яна даглядала нямоглую ляжачую свякроў. А пахавалі бабульку на роднай Зэльвеншчыне, як і прасіла.

Калі Івану Мікалаевічу спраўлялі пяцідзесяцігадовы юбілей, на яго прыехаў і сын ад першага шлюбу. Ён стаў ваенным.

За сталом сабралася вялікая і дружная сям'я. Дзеці і жонка яго так расчулілі сваімі падзякамі і цёплымі словамі, што слёзы з вачэй пакаціліся...

Калі яшчэ тры іхнія хлопчыкі вучыліся ў Міры, памёр родны бацька. Пазванілі ў дырэкцыю, каб адпусцілі дзяцей на пахаванне.

— Едзьце дадому, ваш тата памёр, — сказалі Сашу, Пашу і Вову.

З Міра да Навагрудка іх нехта падвёз, а з Навагрудка да пасёлка Наваельня (недзе каля дваццаці кіламетраў) яны ішлі пешшу. З Наваельні пазванілі дадому, каб суцешыць маці, а трубку падняў... Іван Мікалаевіч.

— Чаму ж вы нас так напалохалі?! Мы думалі, што ты, тата, памёр...

— У нас хоць і шматдзетная сям'я, але дапамогі ў дзяржавы ніколі не прасілі. Усё маем сваё, — кажа Іван Мікалаевіч. — Працуем, праўда, шмат, затое ж і маем. Вяселле сыну справілі. І яшчэ ж у нас будуць чатыры вяселлі. Час непрыкметна ляціць: яшчэ два сыны і дачка ўжо дарослыя.

Яны вераць у Бога. Узялі ў касцёле шлюб. Не зарасла забыццём сцяжынка да храма і для іхніх дзяцей. І вера ў Бога, і падтрымка ды спагада добрых людзей вярнулі ў гэту цудоўную сям'ю шчасце. Дык няхай жа яно жыве там заўсёды!

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**



*Оля і Таня Кедала пасля першай споведзі ў двары Дзятлаўскага касцёла.*

РУБАМ

# А чаму б храм-капліцу не назваць імем Сафіі Слуцкай?

*Згодна з пагадненнем аб супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Беларускай Праваслаўнай царквой, падпісаным 12 чэрвеня 2003 года, у шэрагу вайсковых часцей прыняты рашэнні аб будаўніцтве на іх тэрыторыі цэркваў і капліцаў.*

Вось і камандаванне асобнай чыгуначнай брыгады, якая дыслакуецца ў 1-м вайсковым гарадку Слуцка, з блаславення Уладыкі Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта вырашыла пабудаваць храм-капліцу ў гонар святога расійскага князя Аляксандра Неўскага пад духоўным наглядам прыходу храма Святых мучанікаў Касмы і Даміяна (ён размешчаны на паўднёвай ускраіне горада).

Што ж, лепш будаваць храмы, чым іх рушыць, як гэта было ў 20—40-я гады мінулага веку. Тады на тэрыторыі гэтага вайсковага гарадка былі знішчаны буйнейшы ў горадзе Свята-Троіцкі сабор і мужчынскі манастыр, дзе пасля смерці ў 1512 годзе князёўны Сафіі Слуцкай аж да 1921 года захоўваліся яе нятленныя мошчы, перанесеныя затым у Мінск у Свята-Кафедральны сабор. На месцы яе спачывання ў пачатку 90-х гадоў вернікі з Мінска паставілі крыж. А колькі храмаў было зруйнавана ў іншых гарадах і паселішчах — не злічыць!

Будынак храма-капліцы будзе ўзводзіцца (120 тысяч штук цэглы ўжо завезена) побач з КПП вайсковай часці, у ім прадугледжаны два ўваходы: з боку часці для вайскоўцаў, і з боку вуліцы Віленскай — для гараджан.

Задумка слушная. Але паўстае пытанне: чаму б у назве храма-капліцы ўвекавечыць не расійскага князя, хоць і святога (яго імя на Беларусі і без таго мае не адзін храм), а нашу славутую зямлячку Сафію Слуцкую, бронзавы помнік якой чатыры гады таму быў узведзены ў цэнтры горада на беразе Случы, побач з капліцай святой Варвары? Над гэтым, лічу, варта было б падумаць.

**Алесь ВОЛАТ,**
**пенсіянер.**

*г.Слуцк.*

ОДНИМ АБЗАЦЕМ

## Роман Абрамович намерен купить итальянский курорт

Британская газета Independent сообщила о том, что известный российский олигарх Роман Абрамович собирается купить курорт в итальянской Лигурии. По информации издания, цена сделки составит 10 млн. евро. Как отмечает Би-Би-Си, участок побережья, заинтересовавший владельца футбольного клуба "Челси", называется Эко дель Маре и расположен неподалеку от города Лиричи, где в 1822 году утонул в шторм английский поэт Перси Биш Шелли.

## Туристические вертолеты заинтересовали «Аль-Кайеду»

Пакистанские власти предоставили США информацию о том, что террористы из "Аль-Кайеды" могут организовать атаки на Нью-Йорк при помощи туристических вертолетов. Об этом сообщает издание New York Times со ссылкой на источники в американских спецслужбах. В связи с этим в начале этой неделе будет издана новая директива, предписывающая усиление мер безопасности туристов, совершающих экскурсии на вертолетах. Прекращать полеты власти не планируют.

## Голые девушки на британском ТВ

С 16 августа жители и гости Великобритании узнают о последних новостях в мире от обнаженных телеведущих. Именно в этот день стартовала программа "Голые новости". Стоит отметить, что в США, Канаде, Австралии и некоторых других странах аналоги такого телепроекта уже существуют. Как сообщает Sky News, британская версия практически не отличается от американской или канадской: обнаженные девушки рассказывают о последних важных событиях, новостях спорта, Интернета, кинематографа и погоде.

## Эротика и вино для гостей и жителей Крыма

В крымском поселке Мисхор открылась выставка эротических произведений искусства, организованная представителями неформального ялтинского объединения художников. По замыслу организаторов, экспонаты необычной выставки, получившей название "Праздник труда отдыхающего художника", нужно оценивать, загорая, купаясь и попивая вино. Именно с этой целью все они выставлены у водоема. Стоит отметить, что тема эротики выбрана художниками не случайно: по их убеждению, именно она главенствует летом в Крыму. Среди работ, представленных на суд публики, — картины, скульптуры, коллажи и инсталляции.

УЛАСНЫ ВОПЫТ

# Краіна руж і... чысціні,

## альбо Як мы адпачывалі ў Балгарыі

*— А дзе тая Варна?*
*— Ды недзе ва Украіне.*

*(З размовы выпадковых прахожых на баранавіцкім пероне ў час стаянкі цягніка "Варна—Мінск".)*

Балгарскі горад Абзор я ўпершыню наведала ў 1998 годзе. І вось вырашыла туды з'ездзіць зноў...

### Дарога

Міжнародны цягнік "Варна—Мінск" спадабаўся з першага погляду: утульныя купэ, дывановыя дарожкі, запакаваная ў цэлафан бялізна, на століку — пералік напояў і прадуктаў, якія можна набыць у праваднікоў. У дарозе цягнік знаходзіцца сорак чатыры з паловай гадзіны і пераадольвае адлегласць каля трох тысяч кіламетраў. Па нашай тэрыторыі поезд ідзе крыху менш за шэсць гадзін, па Украіне — семнаццаць з паловай гадзін, па Румыніі — дзесяць з паловай і па Балгарыі да Варны чатыры з паловай гадзіны. У гэты час уваходзіць стаянка ў Львове, якая доўжыцца дзве гадзіны. Не ведаю, як называецца мэта стаянкі на прафесійнай мове чыгуначнікаў, а Віктар Сувораў у кнізе "День "М" называе гэты працэс "перашыўкай" (цягнік перастаўляюць на іншыя колы, бо замежная каляя на 6 сантыметраў вузейшая).

З цікавасцю глядзіш з вокнаў цягніка, як мяняецца раслiннасць, ландшафт, надвор'е, як выглядаюць гарады і вёскі. І вось пасля зусім не стамляльнай вандроўкі цягнік набліжаецца да Варны.

Пасажыры глядзяць у вокны цягніка: калі ўжо пакажацца мора?

### Прывітанне, Балгарыя!

У Варне падарожнікаў сустракаюць прадстаўнікі турыстычных фірм і вязуць да вызначаных месцаў.

З Варны ў Абзор мы ехалі хвілін пяцьдзесят (адлегласць 58 кіламетраў). Нас прывезлі ў офіс, мы заплацілі за пражыванне і рэгістрацыю. І вось наш нумар — прыгожы, утульны, з балконам, з усімі выгодамі. Два незабыўныя тыдні прайшлі як адзін дзень.

Горад Абзор параўнальна невялікі, вельмі дагледжаны. Ён размешчаны ўздоўж Чорнага мора каля горнага хрыбта Стара-Планіна. Тут удала спалучаецца марскі і горны клімат. Марская вада вабіць выключнай чысцінёй, прасторны — як акінуць вокам — пляж даўжынёй сем кіламетраў прыцягвае дробным залаціста-жоўтым пясочкам. Шырыня пляжа 60—70 метраў, таму на ўзбярэжжы няма той велізарнай шчыльнасці людзей, як, скажам, у Албене ці Несебры. Ніхто нікому не замінае, нягледзячы на тое, што турыстаў у Абзоры шмат. У асноўным гэта жыхары Масквы і Санкт-Пецярбурга, многа чэхаў, сербаў, палякаў, немцаў. Вельмі шкада, што мала хто з беларусаў ведае горад з такой цікавай назвай — тыповым шматзначным рускім словам. Дарэчы, яшчэ каля 2 тысяч год таму старажытныя грэкі назвалі заснаванае тут паселішча Геліянолем, гэта значыць — *"сонечны горад"*. Сёння Абзор — цэнтр міжнароднага турызму з вялікай колькасцю дзяржаўных і прыватных гатэляў. Можна выбраць сабе нумар ці пакой на любы густ і кашалёк. Харчавацца таксама не праблема — кавярні і рэстараны на кожным кроку. Чысціня, смачная ежа, хуткае абслугоўванне вам гарантаваны. Вядома, калі гаспадары не здолеюць вам дагадзіць, вы больш да іх не пойдзеце, таму яны імкнуцца зрабіць усё як найлепш. Напрыклад, калі гаспадар экспрэс-кавярні "Русалка" ўзнаў, што мы з Беларусі, ён сустракаў нас ветлівай усмешкай і адразу ўключаў першы міжнародны тэлеканал з вядомым "Клонам". А ежа была такой якасці, што стваралася ўражанне: яе згатавалі толькі што і спецыяльна для нас.

Нас здзівіла непераўзыдзеная чысціня і незлічоная колькасць кветак, у асноўным руж. Нездарма ж Балгарыю называюць краінай руж, а па вытворчасці і экспарце ружовага масла гэтая балканская краіна стаіць на першым месцы ў свеце. На многіх вуліцах убачыш шыльдачкі-напамінкі: "Чистота е мерило културы и възпитания". На асобых будынках вісяць таблічкі з надпісам: "Образцов дом".

Штораніцы, дакладна а восьмай гадзіне, насупраць нашага гатэля спынялася машына, якая збірала смецце з кантэйнераў. Плячыстыя, рослыя мужчыны вокамгненна падкочвалі кантэйнеры, а астатняе машына рабіла сама. Так кожны дзень і на кожнай вуліцы. Таму і ўвечары, калі па вуліцах гуляюць тысячы людзей, нідзе не ўбачыш ні парушынкі, ні смяцінкі. Да позняй ночы гучыць музыка, працуюць магазіны, вулічныя гандляры прапануюць сувеніры і балгарскія ласункі, у рэстаранах спевы і скокі. Многія прыязджаюць да мора сваім ходам, машыны пакідаюць на стаянках ці проста на тратуарах. Мы звярнулі ўвагу: многія шыкоўныя аўтамабілі са знятым верхам, адчыненымі вокнамі, у машынах магнітафоны, тэлевізары, і ніхто не цягне рукі да гэтых каштоўнасцяў.

### Колькі што каштуе

Праезд цягніком Мінск—Варна—Мінск разам з візамі і страхоўкай аднаму даросламу абыдзецца ў 200 долараў. Пражыванне ў двухмесным нумары з выгодамі ў прыватнай гасцініцы абыдзецца па 6 еўра з чалавека ў суткі. Калі вы жадаеце, каб вас сустрэлі ля цягніка і прывезлі на месца, рыхтуйце яшчэ 16 долараў. Вядома, можна ўзяць таксі, каб вас даставілі на аўтавакзал, і ехаць аўтобусам — 4 левы (прыкладна 3 долары) з чалавека. Таксіст запатрабуе 6 леваў. Крыху сэканоміце, затое колькі важданіны з рэчамі. З непрывычкі стоміцеся пры балгарскай тэмпературы паветра (раніцай каля 25° цеплыні і вышэй).

Паўнавартасны абед для дваіх будзе каштаваць каля 10 леваў. Калі вы пажадаеце снедаць і вячэраць "дома", у нумары, і 2 разы харчавацца ў кавярні ці ў рэстаране, то дваццаці долараў на суткі хопіць з гакам. А калі ў вас гаспадарлівая жонка, якая ўмее лічыць грошы, то трохсот долараў на два тыдні адпачынку будзе не толькі дастаткова, але яшчэ і застанецца на сувеніры-падарункі.

Вядома, калі вы — цікаўны чалавек і хочаце не толькі адпачыць, але і паглядзець нешта новае, з'ездзіць куды-небудзь на экскурсію, то на гэта патрэбны немалыя грошы. Скажам, квіток для наведвання славутага дэльфінарыя ў Варне каштуе для замежнага турыста 16 леваў (крыху больш за 10 долараў).

Цэны на садавіну-агародніну прыблізна такія, як і ў нас.

Прыемнага адпачынку!

**Вольга КЛІВЕЦ, жыхарка Мінска.**

ИНТЕРОТДЫХ

# Фиеста и помидорные баталии,

## или О том, что можно увидеть в Западной Европе во второй половине августа

### Великобритания

**Фестиваль в Ноттинг-хилле, 29—30 августа, Лондон**

Считается, что это крупнейший европейский уличный фестиваль в карибском стиле. В последний уик-энд августа единственным законом в западном квартале Лондона Ноттинг-хилле становится закон карнавальной стихии. Карнавальную процессию возглавляют музыканты (первоначально это был "джазовый грузовик"), затем следует процессия танцоров — главная достопримечательность фестиваля, затем шествие короля, королевы, двух звезд и многочисленной свиты, присоединиться к которой может любой желающий. В традиционной программе фестиваля обязательно будут оркестры барабанщиков и острая карибская еда.

### Германия

**Всемирная ярмарка поп-музыки Popkomm, август, Кельн**

Каждый август Кельн становится эпицентром музыкальной жизни Европы. Ярмарочные стенды 1000 музыкальных фирм располагаются в знаменитом выставочном центре Messe, где презентуются промо-сборники новейшей музыки. Многочисленные концерты попсовых музыкантов проходят и на городской спортивной арене, и на открытых площадках, и в клубах (*на фото*).

**Ночь гурманов, 22 августа, Бахарах**

Старинный город Бахарах находится на живописнейшем берегу Рейна (недалеко от Кобленца) и славится своими виноградниками и старинными развалинами замков. Считается, что именно здесь делают лучший рислинг, поэтому винные дегустации — основа праздника. Фейерверки, музыка, танцы и дегустация лучших блюд национальной кухни обязательны.

### Испания

**Фиеста басков Aste Nagusia, 21—29 августа, Бильбао**

Выстрелом из пушки, криками зазывал и приветствием куклы Марихайи открывается одна из крупнейших фиест Испании — традиционный праздник басков. Участников ожидают ежедневные корриды, многочисленные шоу, традиционные состязания силачей, фейерверки и, конечно же, блюда баскской национальной кухни, которую гурманы считают лучшей в Испании. Фиеста заканчивается сжиганием куклы Марихайи.

**Помидорная битва La Tomatina, 25 августа, Буньоль**

Маленький городок Буньоль, находящийся в 50 км от Валенсии, славится своей грандиозной томатной баталией, в которой ежегодно участвуют около 30 000 человек. Существует множество легенд, с чего все началось, но вот уже полвека в конце лета местные жители сначала готовятся к битве: окна, двери, витрины закрывают пластмассовыми щитами и готовят снаряды — более 100 тонн спелых томатов. В день побоища по условному сигналу (выстрел из пушки) начинается часовая помидорная перестрелка, в которой существует одно негласное правило: перед тем как метнуть снаряд в кого угодно, его нужно как следует надавить до появления сока, а то мало ли что... Опять же по сигналу битва прекращается, а улицы промываются водой из древнего, еще римского акведука. После битвы целую неделю продолжается фиеста.

### Финляндия

**Фестиваль классической музыки, 12—22 августа, Турку**

Старейший финский город — древняя столица страны — ежегодно собирает лучших музыкантов со всего мира. Камерная музыка звучит в знаменитом концертном зале "Сигюн". В Академическом концертном зале и расположенном рядом Кафедральном соборе — музыка Ренессанса и барокко. Большие симфонические оркестры выступают в Concert Holle. В программе фестиваля также танцевальная музыка и детские концерты. Молодые музыканты берут мастер-классы у мировых знаменитостей. Кстати, билеты на концерты стоят от 10 до 50 евро.

### Чехия

**Международный музыкальный фестиваль, до 28 августа, Чески-Крумлов**

Это небольшой город славится своей средневековой архитектурой, музыкальными фестивалями и театрализованными рыцарскими турнирами. Практически каждый день в рамках музыкального фестиваля будут выступать артисты из Европы, США, Канады и Австралии.

**"Верди-фестиваль", 19—31 августа, Прага**

По уже сложившейся традиции "Верди-фестиваль" открывает сезон Государственной оперы в Праге. 19 и 28 августа звучит опера "Трубадур", 20 августа будут давать "Риголетто", 21 и 24 — "Травиату", 22 и 28 — "Набукко", а 27 и 31 августа — "Аиду".

**Нюта КУКУШКИНА.**

СОВЕТЫ ОТДЫХАЮЩЕГО

# Сколько денег брать в Грецию

*О неминуемом повышении цен на отдых в Греции туроператоры предупреждали еще в прошлом году. Причина этого — летняя Олимпиада в Афинах. Впрочем, не обращая ни малейшего внимания на все эти предостережения, неугомонная парочка обаятельных дам решила отправиться на греческий остров Крит... Выяснилось, что на островной отдых цены по сравнению с прошлым годом выросли незначительно, ценовой же ажиотаж приходится лишь на август — время проведения Олимпиады — и затрагивает главным образом материковую Грецию.*

### Пляж

Купальный сезон на Крите начинается в начале мая и заканчивается в середине ноября. Критские пляжи песчаные, хотя встречается и галька, иногда довольно крупная. Все пляжи острова бесплатные. Оплачивается пользование лежаком и зонтом от солнца — примерно 4—4,5 евро в день. Отдельно стоит сказать о водных развлечениях: удовольствие "порассекать" на водных лыжах стоит 20 евро за 10 минут, прокат оборудования для виндсерфинга обойдется в 15 евро за первый час. Каждый последующий час — 5 евро.

### Экскурсии

Организованная экскурсия, заказанная у принимающей турфирмы, стоит порядка 25 евро. Часто в эту сумму уже входит стоимость входного билета в музей или знаменитую пещеру. Отметим, что для туристов, предпочитающих самостоятельное знакомство с островом, входные билеты в музеи стоят 6 евро, а вход в многочисленные пещеры, связанные с древнегреческими мифами, обойдется в среднем в 4 евро.

Если вам не по душе толчея, рекомендуем заглянуть в исторический и краеведческий музеи города. Вас приятно удивят интереснейшие экспозиции и минимум публики в залах. Стоит обследовать хотя бы пару пещер острова, некоторые из них очень занимательны. Правда, следует знать некоторые подробности: например, к пещере Зевса, где он, по преданию, родился и вырос, ведет продолжительный подъем. Раздосадованным такой неожиданностью туристам радостно предложат взять напрокат осла — "всего" за 10 евро.

### Рестораны

В стоимость любого тура, как правило, входит завтрак в отеле. Утренняя трапеза включает нарезку сыра, колбасы и ветчины, мед, масло, мюсли и йогурт. Подаются огурцы, помидоры, обязательный омлет и сосиски. В общем, неплохо для начала дня. Совсем другое дело — обед в местной таверне после утреннего купания и экскурсии. Мусака (картофель, запеченный с мясом, баклажанами и сыром) — 5,5 евро, большая порция осьминога или жареных кальмаров — 6,5 евро, мидии в пикантном соусе — 6,5 евро. Запить все это можно недорогим красным вином. Пол-литровый кувшин охлажденного вина вам обойдется примерно в 2,5 евро.

В стороне от туристической тропы кормят, как всегда, дешевле. Например, блюдо под невинным названием "морской микс на двоих" представляет собой здоровенную тарелку с горой аппетитно запеченной рыбы, огромных креветок, мидий, кальмаров и овощей. Цена — 10 евро. Кроме того, в супермаркетах можно приобрести вино (от 1 евро за бутылку) или пиво — около 1,5 евро за 0,5 л.

**Татьяна ЩЕРБАКОВА.**

# Изредка щекотал нервы прохладный летний душ...

## или Теплые воспоминания о жарком городе Алушта

*В этом году свои летние каникулы я вместе с подругами решила провести в прекрасном украинском городе Алушта, о котором слышала много хорошего. Для спокойствия и уверенности билеты купили за месяц до отъезда. Дождавшись заветного дня, мы прихватили все самое необходимое и отправились в дорогу.*

Белорусский поезд, которым я ехала, мне пришелся по душе: везде чисто и аккуратно. Дружелюбные соседи всю дорогу развлекали смешными историями из своего богатого жизненного опыта. Дорога оказалась легкой, границу пересекли без проблем. Как только вышли из поезда в Симферополе, на нас просто набросились улыбчивые таксисты с "выгодными" предложениями комфортной доставки в Алушту. Практически все они данную услугу оценивали в 15 долларов, в то время как дорога на троллейбусе, которая длится на полчаса дольше, обходится примерно в 1—1,5 доллара. Мы остановились на последнем варианте. Во время поездки в полной мере насладились красотой местной природы. На остановке троллейбуса нас окружила целая толпа людей, предлагающих жилье по сходной цене. Эта цена может быть разной. Все зависит от условий проживания. В основном все туристы требуют обязательного наличия горячей воды и кондиционера. Такое жилье обходится им от 5 и выше долларов в сутки. Некоторые требуют за свои апартаменты 50 и более долларов в сутки. Мы решили найти себе что-нибудь попроще, чтобы сильно не ударило по студенческому кошельку. В итоге одинокая старушка приютила нас под крышей дома своего за 3,5 доллара в сутки. Наше жилище представляло собой маленькую комнатку с тремя кроватями и зеркалом. В принципе, все для нормального существования у нас было. Даже прохладный летний душ, представляющий собой огромную бочку с водой, которая нагревается горячим алуштинским солнцем, и приятно щекотал нервы.

В тот же день мы пошли "в разведку", чтобы выяснить, какие развлечения нас ждут в солнечном курортном городке. Первым делом направились на городской пляж. Он оказался платным. Хочешь нежиться на жарком солнышке, плати 3 гривны (около полутора тысяч белорусских рублей) за посещение. Весь алуштинский берег раздроблен на множество мелких платных пляжей. Большинство из них частные. В Алуште за все надо платить, начиная от посещения дорогих ресторанов, экскурсий, морских путешествий, дискотек и заканчивая элементарным — платными туалетами (бесплатных там нет).

Алушта, как и любой курортный город, живет ночной жизнью. В это время на улицах не протолкнуться. Каждый в меру своих возможностей ищет, чем бы себя развлечь. Молодежь тусуется на дискотеках, отдыхает в барах и ресторанах, люди постарше предпочитают вечерние прогулки пешком или на рикшах. Алушта — город небольшой. Все развлекательные комплексы расположены вдоль побережья, поэтому каждый вечер там можно встретить уже знакомые лица.

После бурных ночей, полных алуштинских развлечений, на пляж утром выбраться довольно тяжело. Однако не стоит забывать: чтобы безопасно загореть и выбрать хорошее место для этой процедуры, нужно приходить на пляж ранним утром, часов в шесть. В случае опоздания приходится тесниться и наслаждаться всем поодаль от остальных, в неуютной зоне раздевалок. Расслабиться на пляже в полной мере невозможно. Вокруг многолюдно и шумно, к тому же постоянно надоедают местные торговцы, продающие изысканные кушания, сладости и вина (часто чем-то разведенные) по цене в три раза выше обычной. По этой причине все туристы стараются скрыться от суеты, ищут пляжы почище да поспокойней. Должна отметить, что в Алуште такие места есть.

Под влиянием изнурительного солнца и чувства легкой усталости невольно думается о еде. При этом хочется не транжирить, а экономно распределять свои финансы, в том числе и на продукты питания. Лучше всего закупаться в небольших магазинах и на рынках, которые находятся поодаль от центра города. Там цены значительно ниже. Для студентов и просто экономных людей это самый подходящий вариант. Необходимо отметить, что цены на продукты питания в Алуште практически не отличаются от белорусских. Немного больше стоит хлеб и молочные продукты, цены же на фрукты такие же.

Время отдыха летело очень быстро. Перед отъездом мы решили посетить одну их тех достопримечательностей, которые так рекламируют экскурсоводы. Выбор в этой области велик. Цены на экскурсии практически одинаковые и колеблются от 50 до 70 гривен (10—15 долларов). Что выбрать? Задаем этот вопрос нашим соседям, пробывшим здесь дольше нас. Отвечают, что многими экскурсиями, которые посетили, они остались недовольны. Во-первых, дорога тяжелая, экскурсии проходят весьма динамично, времени на то, чтобы все толком рассмотреть, не хватает. Поэтому мы решили далеко не ехать, а просто навестить знаменитый Алуштинский ботанический сад.

Когда время нашего пребывания в Алуште подошло к концу, стало немного грустно. Не хотелось покидать и новых друзей, которых приобрели за это время. Сейчас, просматривая фотографии и вспоминая лучшие эпизоды своей поездки, я подумываю о том, чтобы в следующем году снова навестить полюбившийся мне украинский город — Алушту.

**Ольга БЕЛАЯ.**

# «Адпачываем без праблем!»

Беларуская турыстычная кампанія "Танец ветру" рыхтуе да выдання зборнік у дапамогу турыстам пад рабочай назвай "Адпачываем без праблем!" з мэтай дапамагчы айчыннаму турысту зарыентавацца ў вялікім выбары накірункаў для адпачынку ўнутры Беларусі і за яе межамі.

Як паведаміў БелаПАН намеснік дырэктара кампаніі Кірыл Жываловіч, выданне не будзе ўтрымліваць рэкламу, а даваць інфармацыю аб розных накірунках турызму і адпачынку, прапануемых беларускімі тураператарамі. У зборніку плануецца ахапіць увесь спектр адпачынку, уключаючы авіяпералёты, аўтобусныя туры, гасцініцы і экскурсіі. Апроч таго, у выданні будуць растлумачвацца пытанні, якія часцей за іншыя ўзнікаюць у адпачываючых. Гэта пералік неабходных дакументаў для выезду за мяжу, мытныя правілы, афармленне страхавога полісу і шмат іншыя. Такім чынам, маючы зборнік, чалавек можа вызначыць найбольш прымальны для сябе від адпачынку і даведацца аб ім.

Паўдзельнічаць у стварэнні зборніка запрашаюцца і самі турысты, якія могуць расказаць аб праблемах, з якімі сутыкнуліся падчас адпачынку. Зборнік плануецца выдаць у гэтым сезоне накладам 3-5 тысяч асобнікаў.

**Лавінія АРЭШКА.**

УЛЫБНЕМСЯ

# Эх, охотнички!

Выведена новая порода собак — эстонская гончая. Предназначена для охоты на черепах и раненых улиток. Команды хозяина выполняет очень тщательно, правда, спустя 20—30 минут после подачи.

***

Возвращается муж с охоты страшно злой. Жена:

— Что случилось?

— До чего же лиса коварное животное! Вижу лису, стреляю, лиса падает. Иду к ней, лиса лежит. Подхожу, глядь — а это собака!

***

— Выхожу я как-то из дому на охоту. Смотрю — прям на телеграфном столбе орел сидит. Ну я вскидываю ружье, целюсь: бах-бах, ба-бах!

— Попал?

— Да! Когти — в одну сторону, плоскогубцы и пассатижи — в другую.

***

— Ты чего такой грустный?

— Да вот пошли с мужиками на кабана охотиться. Кабан не пришел. Ну мы и напились, как свиньи. И тут пришел кабан...

***

Мужик возвращается с охоты домой и заявляет приятелю:

— Ну все, теперь целый месяц жена не будет покупать мясо!

— Что, так много настрелял дичи?

— Нет, пропил всю зарплату.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс(017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.
Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 500 экз. Заказ № 713.